АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ОРДЭНА ДРУЖБЫ НАРОДАЎ
ІНСТЫТУТ ЛІТАРАТУРЫ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

# ФРАНЦЫСК СКАРЫНА

## ЗБОРНІК
## дакументаў і матэрыялаў

МІНСК «НАВУКА І ТЭХНІКА» 1988

ББК
Ф84

В. І. Дарашкевіч — прадмова, укладанне, каментарыі, паказальнік

Я. Л. Неміроўскі — выданні Францыска Скарыны: зводны каталог і апісанне

Рэдактары:

д-р гістар. навук Я. Д. Ісаевіч
канд. філал. навук В. А. Чамярыцкі

Рэцэнзенты:

д-р філал. навук М. М. Арочка
д-р філал. навук А. А. Лойка
д-р філал. навук В. П. Маслюк

$Ф\frac{4603000000-007}{М316(03)-88}120-87$

ISBN 5—343—00393—1

# ВЯЛІКІ ЎСХОДНЕСЛАВЯНСКІ ПЕРШАДРУКАР І АСВЕТНІК-ГУМАНІСТ





# БІВЛИЯ РОУСКАЯ

ВЫЛОЖЕНА ДОКТОРОМЪ
ФРАНЦИСКОМЪ СКОРИНОЮ
ИЗСЛАВНАГО ГРАДА ПО
ЛОЦЬКА, БОГОУ КОЧТИ И
ЛЮДЕМЪ ПОСПОЛИТЫМЪ
К ДОБРОМОУ НАОУЧЕНИЮ :~

Падзвіжніцкая дзейнасць Францыска Скарыны, тытанічнай постаці эпохі Адраджэння, заснавальніка рэнесансна-нацыянальнай традыцыі ў культуры ўсходнеславянскіх народаў, з'явілася заканамерным і прагрэсіўным вынікам сінтэзу і далейшага развіцця перадавога айчыннага і сусветнага, пераважна заходнееўрапейскага, вопыту. Яна была падрыхтавана ўсёй шматвяковай гісторыяй беларускага народа. Па шматграннасці сваёй натуры, вучонасці, сіле думкі, прадпрымальнасці, творчай смеласці і шырыні поглядаў Скарына быў тыпова рэнесансным, еўрапейскім і разам з тым глыбока славянскім і беларускім дзеячам. Сапраўды, як творчая асоба Скарына (выхадзец з беларускай сям'і) канчаткова сфарміраваўся ў заходнееўрапейскім культурным асяроддзі, аднак ён не страціў нацыянальнага аблічча, а ўсю энергію, талент і энцыклапедычныя веды аддаў радзіме, патрыятычнаму служэнню «посполитому люду рускаго языка», разумеючы пад ім усю ўсходнеславянскую супольнасць. Таму так важна зразумець гарачы патрыятызм і ў пэўнай ступені народныя карані светапогляду, што трымалі Скарыну, як магутнае дрэва на зямлі, і не далі яму адарвацца ад роднага народа.

З гонарам і пачуццём уласнай годнасці зазначаў Скарына ў прадмовах і пасляслоўях да сваіх кніг, што паходзіў ён «из славнаго града Полоцка». Тут закладваліся асновы светапогляду будучага беларускага вучонага, культурнага дзеяча, асветніка, пісьменніка, паэта, перакладчыка і мастака.

У канцы XV — пачатку XVI ст. Полацк быў адным з найбольш буйных эканамічных, палітычных і культурных цэнтраў Беларусі. У 1498 г. ён атрымаў магдэбургскае права, што сведчыла аб узрастанні яго эканамічна-сацыяльнага значэння. Размешчаны на Заходняй Дзвіне, Полацк вёў ажыўлены гандаль з гарадамі Вялікага княства Літоўскага, Маскоўскай Русі, Прыбалтыкі, Польшчы, Заходняй Еўропы. Купцамі былі і бацька Францыска Лука, і старэйшы брат Іван, якія гандлявалі скурамі і футрамі. Аднак здольнага палачаніна цягнула да навукі.

Атрымаўшы ў Полацку ці Вільні неабходныя для паступлення ва універсітэт веды па латыні, Скарына накіраваўся ў

Кракаў. У 1504 г. ён паступіў у Кракаўскі універсітэт на факультэт свабодных навук (інакш — філасофскі). У матрыкульных кнігах сустракаем запіс: «Franciscus Luce de Ploczko 2 gr» («Францыск, сын Лукі з Полацка, заплаціў 2 грошы») [1]. Праз два гады, 14 снежня 1506 г., у перыяд дэканства магістра Леанарда з Добшыч Францыск разам з 15 іншымі выпускнікамі быў «узведзены ў ступень бакалаўра», аб чым ва універсітэцкіх аналах быў зроблены адпаведны запіс [2].

Гады, праведзеныя ў сталіцы тагачаснай Польшчы, не прайшлі бясследна для Скарыны. Не выпадкова пазней у «Бібліі рускай» ён будзе прапагандаваць сістэму еўрапейскай адукацыі— «седм наук вызволеных». Нягледзячы на тое што выкладанне ўсіх дысцыплін, у тым ліку так званых свабодных навук (граматыкі, логікі, рыторыкі, музыкі, арыфметыкі, геаметрыі, астраноміі), тады вялося ў аснове схаластычна, іменна ў Кракаўскім універсітэце ён падрабязна пазнаёміўся з творамі антычных аўтараў Арыстоцеля, Вергілія, Платона і інш., з жыццесцвярджальнымі ідэямі рэнесансных гуманістаў. Прафесарамі Скарыны былі і славутыя вучоныя-гуманісты Ян з Глагова (каля 1445—1507 гг.), буйнейшы знаўца спадчыны Арыстоцеля, астраном (па яго працах вучыўся Капернік), і Ян са Стобніц (каля 1470—1530 гг.), каментатар твораў Арыстоцеля, Цыцэрона і аўтар прыродазнаўчых прац.

Ужо ў Кракаве ў Скарыны, відаць, выспела высакародная задума развіць на новым якасным узроўні славянскае кірыліцкае кнігадрукаванне, упершыню распачатае кракаўскім друкаром нямецкага паходжання Швайпольтам Фіёлем у 1491 г., паколькі царкоўнаславянскія выданні Фіёля, як і еўрапейскія інкунабулы, у многіх адносінах былі яшчэ недасканалыя і ішлі за рукапіснай кнігай. Як слушна адзначыў П. У. Уладзіміраў, «у адносінах да папярэдніх царкоўнаславянскіх выданняў кнігі Скарыны (выдадзеныя ў Празе.— *В. Д.*) больш за ўсё звязаны з кракаўскімі выданнямі Фіёля (ва ўсіх выданнях Фіёля часта сустракаецца вадзяны знак, што і ў Скарыны...; у некаторых кнігах Фіёля сустракаецца вопыт кірыліцкай нумарацыі па аркушах; памер радковага шрыфту і некаторых вялікіх літар у Фіёля той жа, што ў Скарыны...; з усіх царкоўнаславянскіх выданняў толькі ў Фіёля і Скарыны ставіцца ў канцы кожнага раздзела і асобнага загалоўка знак двукроп'я з асаблівай рыскай...; нарэшце, як выданні Фіёля, так і выданні Скарыны непасрэдна звязаны з рускімі рукапісамі)» [3]. Можна яшчэ дадаць, што «Часаслоў» 1491 г., як і пражскія выданні Скарыны, надрукаван у чацвёртую долю аркуша; «Часаслоў» мог быць выкарыстан беларускім першадрукаром і пры падрыхтоўцы «Малой падарожнай

[1] Гл. дадзены зборнік. С. 57.
[2] Там жа. С. 58.
[3] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина: Его переводы, печатные издания и язык СПб., 1888. С. 81.

кніжкі». «Актоіх» і «Трыёдзь посная» Фіёля, «Песня песням» і частка віленскіх выданняў Скарыны надрукаваны ў дзве фарбы. Словам, Скарына ведаў кнігі Фіёля і творча выкарыстоўваў яго вопыт. З імі ён мог пазнаёміцца яшчэ ў Вялікім княстве Літоўскім, дзе яны, як і ў Маскоўскай дзяржаве, былі распаўсюджаны. (Большасць захаваных экземпляраў выданняў Фіёля знаходзіцца ў кнігасховішчах СССР.)

Скарына, які вучыўся ў Кракаве праз трынаццаць год пасля заснавання першай кірыліцкай друкарні, не мог не цікавіцца яе лёсам. Ён мог ведаць і пра Рудольфа Барсдорфа з Брауншвейга, шкаляра Кракаўскага універсітэта, які па дагавору з Фіёлем ад 4 лютага 1491 г. адліў «рускі шрыфт». Маладога, патрыятычна настроенага Францыска, напэўна, уразіла паданне пра схватку Фіёля з кракаўскай інквізіцыяй, якая абвінаваціла друкара ў ерасі і арыштавала яго восенню 1491 г. У той барацьбе Фіёль выйшаў пераможцам. Гэтаму спрыяла гуманістычная атмасфера эпохі і, зразумела, дапамога гуманістаў-мецэнатаў горнапрамыслоўцаў Яна Турзо і Яна Тэшнара. Па іх просьбе Фіёля выпусцілі з турмы пад залог у 1000 венгерскіх фларэнаў; на судзе ў сакавіку 1492 г. яго апраўдалі і прызналі «прававерным і адданым католікам». Сярод кракаўскіх мяшчан і беларускіх шкаляраў Кракаўскага універсітэта маглі хадзіць чуткі і пра Турзо, які ў студзені 1492 г. звяртаўся ў Гнёзненскую капітулу з просьбай дазволіць выпусціць у свет «рускія друкаваныя кнігі», але яму адмовілі.

Скарына не мог не ведаць і пра беларуска-ўкраінскае гуманістычнае асяроддзе ў Кракаве, выхаванцаў універсітэта, якія «ўдыхнулі ў мерапрыемства Фіёля — Турзо жывую душу, напаілі яго з крыніцы нацыянальных традыцый» [4]. Беларускі гуманіст за час вучобы ў Кракаве ўдасканаліў свае веды ў польскай мове: польскія запазычанні сустракаюцца ў «Біблії рускай». У гэтым горадзе ён упершыню пазнаёміўся з багатай друкаванай прадукцыяй — мясцовай, нямецкай, італьянскай і, магчыма, з «азамі» тэхнікі кнігадрукавання. Польшча была другой пасля Чэхіі славянскай краінай, якая ўкараніла вынаходства Гутэнберга. Да Фіёля тут дзейнічала друкарня, якая выпускала кнігі на лацінскай мове (недзе паміж 1473—1475 гг.). І хоць першая (захаваная) польская кніга ўбачыла свет толькі ў 1513 г. у кракаўскай друкарні Ф. Унглера [5], а першае поўнае выданне польскай Біблії — у 1561 г. у Кракаве, аднак у часы Скарыны працавалі лацінскія друкарні К. Гохфедэра (з 1503 г.) і Я. Галера (з 1505 г.). Іменна ў гэтых друкароў Скарына мог вучыцца мастацтву «тиснути» кнігі.

Пройдзе час, і вялікі палачанін падхопіць сцяг славянскага друкара Фіёля, вырваны ў славянскай культуры каталіцкімі

[4] Немировский Е. Л. Начало славянского книгопечатания. М., 1971. С. 35

[5] Bernacki L. Pierwsza książka polska. Lwów, 1918.

фанатыкамі. Інтэлектуальнага вопыту, набытага ў Польшчы, яму было недастаткова. Ён прагнуў новых ведаў, імкнуўся спасцігнуць іншыя навукі. З 1507 па 1512 г. малады вучоны падарожнічаў па краінах Еўропы, паглыбляў свае веды па філасофіі, гісторыі, праву, прыродазнаўству, медыцыне, і ў адным з еўрапейскіх універсітэтаў, магчыма ў Пражскім, ён атрымаў вышэйшую вучоную ступень — доктара свабодных навук. Новы штрых у яго біяграфіі высвеціў пратакол падуанскай курыі ад 9 лістапада 1512 г., у якім гаворыцца пра «знакамітага мужа пана магістра Францыска, сына нябожчыка пана Лукі Скарыны з Полацка, русіна, сакратара караля Дацыі» [6], з якой даследчыкі звязваюць як Данію, так і Румынію, і Малдавію. Пры якіх абставінах і з якога часу Скарына стаў каралеўскім сакратаром — важнае пытанне, якое патрабуе спецыяльнага высвятлення. Пэўную дапамогу ў гэтым даследчыкам павінна аказаць вывучэнне дакументаў архіваў уладароў дацкай і румына-малдаўскіх зямель за 1507—1512 гг.

Восенню 1512 г. Францыск Скарына прыбыў у Італію, якая была калыскай класічнага Адраджэння, у праслаўлены Падуанскі універсітэт, каб атрымаць вучоную ступень доктара медыцыны. З гэтай нагоды была наладжана ўрачыстая публічная абарона. Паколькі да паездкі ў Італію Скарына быў, як мы лічым, сакратаром караля Даніі, а ў 1509—1517 гг. у Падуанскім універсітэце лекцыі рэгулярна не чыталіся ў сувязі з вайной паміж Францыяй і Венецыянскай рэспублікай, можна меркаваць, што бліскучыя медыцынскія веды ён атрымаў ва універсітэце ў Капенгагене ці ў нейкім іншым еўрапейскім універсітэце.

5 лістапада 1512 г. у храме св. Урбана была склікана «Калегія слаўнейшых падуанскіх дактароў мастацтваў (г. зн. свабодных навук.— *В. Д.*) і медыцыны па даручэнню найдастойнейшага доктара мастацтваў і медыцыны пана Тадэя Мусаці, віцэ-прыёра», каб вырашыць пытанне аб дапушчэнні да экзаменаў Францыска Скарыны. Ва ўступным слове Мусаці сказаў, што «прыбыў нейкі вельмі вучоны малады чалавек, доктар мастацтваў, бедны, родам з надзвычай далёкіх краёў, магчыма, на чатыры тысячы міляў і больш ад гэтага слаўнага горада, для таго, каб узвялічыць славу і бляск Падуі...» Далей гаварылася, што юнак «звярнуўся да Калегіі з просьбай дазволіць яму ў якасці дару і асобай міласці падвергнуцца з ласкі божай выпрабаванням у галіне медыцыны». У заключэнне было сказана, што «малады чалавек і вышэйзгаданы доктар носіць імя пана Францыска, сына нябожчыка Лукі Скарыны з Полацка, русін». Затым у залу быў запрошаны Скарына, які «пакорліва і ветліва прасіў ... дапусціць яго да выпрабаванняў па медыцыне». Пасля шматлікіх прамоў і выказванняў падуанскіх вучоных віцэ-прыёр прапанаваў галасаваць: «Хто згаджаецца, каб гэтаму пану

[6] Гл. дадзены зборнік. С. 73.

Францыску надаць з ласкі божай медыцынскую годнасць пры захаванні ўсіх патрабаванняў, хай кіне свой голас у урну пацвярджальную, чырвоную; хто не згаджаецца, хай кіне ў адмоўную, зялёную». І, як сказана ва ўніверсітэцкіх актах, «праведзенае такім чынам галасаванне не дало ніводнага голасу супраць» [7].

Папярэдні іспыт адбыўся назаўтра, 6 лістапада, у прысутнасці 14 прафесараў. «Пан магістр Францыск, сын нябожчыка пана Лукі Скарыны з Полацка, русін,— сказана ў дакуменце,— на прапанаваныя яму раніцай ... пытанні па медыцыне бліскуча адказаў па памяці і адхіліў выказаныя яму пярэчанні, выдатна аргументуючы, ён праявіў сябе найлепшым чынам. У сувязі з гэтым усімі там прысутнымі вучонымі, з агульнай згоды ён быў ацэнены як падрыхтаваны і варты быць дапушчаным да асобага экзамену па медыцыне».

Як сведчыць трэці дакумент, 9 лістапада 1512 г. у біскупскім палацы ў прысутнасці 24 віднейшых вучоных Падуанскага універсітэта і высокіх асоб каталіцкай царквы адбыўся «асобы экзамен па медыцыне» Францыска Скарыны. «... Знакаміты доктар мастацтваў пан Францыск, сын нябожчыка пана Лукі Скарыны з Полацка, русін,— сказана ў дакуменце,— быў экзаменаваны ў асобым і строгім парадку па пытаннях, прапанаваных яму раніцай гэтага дня. Ён праявіў сябе настолькі слаўна і дастойна ў час гэтага свайго строгага экзамену, калі выкладаў адказы на зададзеныя яму пытанні і калі абвяргаў прапанаваныя яму доказы, што атрымаў адзінадушнае ўхваленне ўсіх прысутных вучоных без выключэння, і было прызнана, што ён мае дастатковыя веды ў галіне медыцыны». Затым Скарына быў абвешчаны «ва ўстаноўленым парадку доктарам медыцынскіх навук», і яму былі ўручаны «знакі медыцынскай годнасці» [8].

Бліскучая публічная абарона Скарынам вышэйшай вучонай ступені ў перадавым на той час Падуанскім універсітэце, еўрапейскім цэнтры авераізму, прыродазнаўчых навук і медыцыны— яскравае сведчанне пра гуманістычна скіраванае светаўспрыманне беларускага вучонага, засваенне ім найноўшых навуковых і культурна-літаратурных здабыткаў эпохі Адраджэння.

Дасягнуўшы вышынь еўрапейскай адукацыі, «в науках вызволеных и в лекарстве доктор» Скарына не зрабіўся, аднак, кабінетным вучоным-схаластам, а стаў на шлях служэння вялікай справе адукацыі народа на яго роднай мове. Сам гуманіст адзначаў: «Наболей с тое причины, иже мя милостивый бог с того языка на свет пустил»[9]. Заручыўшыся фінансавай падтрымкай багатых беларускіх гараджан Вільні Багдана Онкава, Якуба Бабіча і, магчыма, Юрыя Адверніка, свайго брата Івана

---

[7] Гл. дадзены зборнік. С. 65.
[8] Там жа. С. 70.
[9] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. Мн., 1969. С. 11.

і іншых мецэнатаў, Скарына прыехаў у Прагу, дзе ў 1517 г. заснаваў сваю першую друкарню. Можна з упэўненасцю меркаваць, што ў 1512—1517 гг. ён займаўся арганізацыяй друкарні, гуманістычнымі «штудыямі» Біблії, перакладам яе на «рускую мову» і падрыхтоўкай да друку. Пра гэта пераканаўча сведчаць хуткасць друкавання і аб'ём кніжнай прадукцыі, выдадзенай друкарняй Скарыны ў 1517—1519 гг. Па падліках П. У. Уладзімірава, у першы год выдавалася да 40 аркушаў у месяц, у другі год — да 30, а ў 1519 г.— да 43 аркушаў [10].

Такім чынам, частка рукапісаў была падрыхтавана ім загадзя, а ў далейшым Скарына вымушаны быў адначасова вычытваць карэктуру і рыхтаваць новыя рукапісы да друку. За кароткі час была прароблена сапраўды тытанічная арганізатарская і навукова-даследчыцкая праца, якая была пад сілу нямногім.

Летам 1517 г. «Францишек, Скоринин сын с Полоцька, в лекарскых науках доктор, повѣлел ... Псалтырю тиснути (указанне на тое, што ён не сам набіраў тэкст, а з'яўляўся выдаўцом.— *В. Д.*) рускыми словами а словенским языком». Так, 6 жніўня выйшаў у свет першынец Скарыны — не толькі рэлігійная, але і вучэбная кніга свайго часу. Пасля на працягу 1517—1519 гг. ён выдаў яшчэ 22 (у 19 выпусках) ілюстраваныя кнігі Старога запавету са сваімі прадмовамі, пасляслоўямі пад агульным загалоўкам «Бівлия руска, выложена доктором Франциском Скориною из славнаго града Полоцька, богу ко чти и людем посполитым к доброму научению».

Скарына называў сваю працу «Бивлией зуполной» і ў агульнай праграмнай прадмове «во всю Бивлию», зрабіўшы агляд кніг Старога і Новага запаветаў, даў агульны тытульны ліст. Такім чынам, ёсць падстава сцвярджаць, што ім была падрыхтавана да друку ўся Біблія. Аднак грандыёзны намер Скарыны — выдаць на роднай мове поўны звод Біблії — па невядомых прычынах (магчыма, з-за недахопу грашовых сродкаў; некаторыя даследчыкі ўказваюць на ўзмацненне каталіцкай рэакцыі, а таксама на мор у Празе, які пачаўся ў 1520 г.) не быў здзейснены. Відавочна, што некаторыя надрукаваныя ім кнігі да нашага часу не дайшлі.

Чаму іменна Прага стала калыскай усходнеславянскага кнігадрукавання? Для адказу на гэта надзвычай важнае пытанне неабходна прыняць пад увагу рад аргументаў. «Перш за ўсё Прага з'яўлялася адным з цэнтраў развітога кнігадрукавання. Вялікі ўплыў на выбар Скарыны зрабіла блізкае нацыянальна-культурнае асяроддзе. Далей, Прага з'яўлялася хавальніцай традыцый чэшскага нацыянальна-вызваленчага руху XV ст., які ў свой час знайшоў гарачы водгук у грамадскіх колах Вялікага княства Літоўскага» [11].

---

[10] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина. С. 66.

[11] Подокшин С. А. Франциск Скорина. М., 1981. С. 71.

Прага была блізка размешчана да такіх буйных цэнтраў еўрапейскага кнігадрукавання таго часу, як Аўсбург, Нюрнберг, дзе Скарына мог закупіць частку паперы для кніг. П. У. Уладзіміраў, які вывучыў вадзяныя знакі ў скарынінскім Псалтыры 1517 г., кнігах Ісуса Сірахава, адзначыў, што яны адпавядаюць вадзяным знакам выданняў вядомага друкара і ўладальніка паперні ў Аўсбургу Ё. Шоншпергера (1481—1523 гг.) [12]. Аднак пражскія выданні Скарыны былі надрукаваны на розных відах паперы, і значная частка тыражу — на тоўстай, нізкагатунковай паперы без вадзяных знакаў. Гэта сведчыць, з аднаго боку, што Скарына быў сапраўды надзвычай абмежаваны ў грашовых сродках, а з другога, што «знаходжанне Ф. Скарыны ў Празе супадае з першымі крокамі чэшскай папернай вытворчасці» [13]. (Як вядома, першыя паперныя млыны заснаваны ў Празе і Збраславе ў 1499 г.)

Для Скарыны было важна і тое, што Чэхія мела багацейшыя традыцыі перакладу і значны вопыт выдання Біблii на нацыянальнай мове, хоць у цэлым у пачатку XVI ст. тут назіраецца часовы заняпад друкарскай справы. Не выпадкова чэхі звяртаюцца ў Венецыю, Аўсбург, Нюрнберг, дзе кнігадрукаванне было на высокім узроўні. Разам з тым у Празе ці ў Нюрнбергу Скарына мог наняць наборшчыкаў, гравёраў, заказаць шрыфты. Да скарынінскіх першадрукаў выйшлі тры выданні чэшскай Біблii (першае — у 1488 г. у Празе, другое — у 1489 г. у Кутных гарах, трэцяе — у 1506 г. у Венецыі). Скарына быў знаёмы з гэтымі выданнямі. Аб прызначэнні Біблii выдання 1488 г., напрыклад, сказана: «naprzed ke czti a k chwale božie... a ku prospiechu wiernych Czechow y Morawanow» [14]. Амаль тое ж па сэнсу і ў Скарыны: «Богу ко чти и людем посполитым к доброму научению». Паводле І. І. Первольфа, Ё. Добраўскага, П. У. Уладзімірава, важнейшай крыніцай пры падрыхтоўцы Скарынам перакладаў біблейскіх кніг паслужыла «Біблія чэшская, у Венецыі друкаваная» [15].

Беларускае кнігадрукаванне, як і чэшскае ды еўрапейскае ўвогуле, было ініцыятыўна падзвіжніцкім, справай асобных прадпрымальнікаў ці культурных дзеячаў пад патранатам сваіх мецэнатаў, а не дзяржаўным, як у Маскоўскай Русі. І ў гэтым выявілася адна з агульных рыс еўрапейскага, у прыватнасці чэшскага, і беларускага рэнесансна-гуманістычнага руху.

Хоць «Біблія чэшская» надрукавана ў Венецыі, а скарынінская — у Чэхii, аднак па паходжанню яны звязаны ў першую

---

[12] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина. С. 72.

[13] Мацюк О. Я. Заметки о бумаге пражских изданий Франциска Скорины // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979. С. 190.

[14] Цыт. па кн.: Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина. С. 60.

[15] Яе экземпляр захоўваецца ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе.

чаргу з культурнымі задачамі і грамадска-палітычным развіццём сваіх краін і славянскіх народаў. Ініцыятарамі і арганізатарамі выдання «Біблii чэшскай» былі чэшскія мяшчане-чашнікі, выдаўцы Ян Глаўса, Вацлаў Сова, Бурыян Лазар. Тое ж можна сказаць і пра скарынінскія выданні: іх фінансавалі багатыя віленскія мяшчане.

У прадмове да чэшскай Біблii 1506 г. сфармуляваны мэты выдаўцоў, праслаўляюцца чэшская мова, яе багатыя выяўленчыя магчымасці, жаданне садзейнічаць распаўсюджванню біблейскіх тэкстаў сярод славян. Такім чынам, па задуме выдаўцоў, чэшская Біблія павінна была служыць сродкам развіцця славянскіх нацыянальных літаратур, народнай асветы і барацьбы супраць рымскай курыі. Па сутнасці, гэтыя ж высакародныя задачы і надзеі ўскладаў Францыск Скарына і на сваю Біблію.

Чэшская Біблія 1506 г. зрабіла моцны ўплыў на пазнейшыя выданні 1529, 1537, 1540, 1549 гг. і аж да XVIII ст. выкарыстоўвалася пратэстантамі і каталікамі. Зайздросны лёс і скарынінскай Біблii. Яна, праўда, не мела такога пастаяннага працягу ў нацыянальнай традыцыі, як чэшская Біблія, аднак у перыяд наступлення рымска-каталіцкай рэакцыі ў Вялікім княстве Літоўскім служыла зброяй беларускіх і ўкраінскіх дзеячаў у іх барацьбе за развіццё і захаванне нацыянальнай культуры і мовы, выкарыстоўвалася ў прыватных, брацкіх і пратэстанцкіх школах і зрабіла эпахальны ўплыў на станаўленне ўсходнеславянскіх культур.

Чэхі, як сказана ў выданні Біблii 1506 г., карысталіся «парадамі вучоных мужоў пражскіх», хутчэй за ўсё прафесараў Пражскага універсітэта. Відаць, таму ў тэксце і на палях змешчаны «кантынуацыі» (кароткі змест адпаведнай кнігі ў пачатку кожнага раздзела) і «канкарданцыі» (указанне на паралельныя месцы Старога і Новага запаветаў), уведзен пераклад чацвёртай кнігі Ездры, які адсутнічае ў выданнях 1488 і 1489 гг. Паводле прынцыпаў арганізацыі і ўкладання тэкстаў, скарынінская Біблія некалькі адрозніваецца ад чэшскай: яна выдадзена асобнымі выпускамі, у ёй да кожнай кнігі падаюцца прадмова і пасляслоўе, пашыраныя загалоўкі раздзелаў, змяшчаюцца «на боцех» глосы, тлумачэнні незразумелых іншаземных і царкоўнаславянскіх слоў, часткова «канкарданцыі».

З чэшскімі вучонымі-гуманістамі быў звязаны і Скарына. Няма сумнення, што сувязі яго з Прагай, чэшскай культурай былі больш глыбокія, чым мы сёння ўяўляем. Скарына выбраў Прагу для заснавання друкарні, зразумела, не выпадкова. Але абжыцца ў стольным славянскім горадзе пры невялікіх грашовых сродках было вельмі цяжка. У гэтай сувязі звяртае на сябе ўвагу той факт, што ў «Біблii рускай» знайшоў арганічнае выкарыстанне цэлы пласт чэшскіх запазычанняў — доказ выдатнага ведання беларускім гуманістам чэшскай мовы. Магчыма,

іменна ў Пражскім універсітэце Скарына атрымаў вучоную ступень доктара свабодных навук.

Такім чынам, Скарына, правёўшы ў Заходняй Еўропе значную частку свайго жыцця, глыбока спазнаў культурныя здабыткі і надзённыя запатрабаванні еўрапейскіх народаў. Яго падзвіжніцкая друкарска-асветніцкая дзейнасць была карыснай, надзённай і неабходнай для развіцця славянскіх культур і, бясспрэчна, садзейнічала духоўнаму ўзвышэнню беларусаў і ўсіх славян.

Неўзабаве Скарына вырашае перанесці кнігадрукаванне на ўсход Еўропы — з Прагі ў стольную Вільню. У канцы 1519 г. ці ў пачатку 1520 г. (апошняе датаванае пражскае выданне «Кніга Суддзяў» выйшла з друку 15 снежня 1519 г.) першадрукар вяртаецца на радзіму. Шлях яго праз Польшчу быў вельмі цяжкім. Аб гэтым сведчыць той факт, што ў канцы XIX ст. дырэктарам вроцлаўскай бібліятэкі Маркграфам былі знойдзены ў пераплёце кнігі «Liber procuratorium», дзе вяліся запісы вроцлаўскай пракуратуры ад 1535 г., лісты з васьмі пражскіх выданняў Скарыны (Першай і Чацвёртай кніг Царстваў, Эклезіяста і інш.). На гэты конт існуюць розныя меркаванні. Адным з найбольш верагодных тлумачэнняў можа быць «канфіскацыя кніг у Вроцлаве мясцовымі ўладамі ці каталіцкай царквою, якія западозрылі Скарыну ў прыхільнасці да рэфармацыі, а яго кнігі аб'явілі ерэтычнымі. Так яны аказаліся ў распараджэнні пракуратуры... У Вроцлаве Ф. Скарына вымушаны быў пакінуць і значную частку друкарскага матэрыялу. Вось чаму ў Вільні ён павінен быў рабіць новыя шрыфты, загалоўныя літары, застаўкі...»[16] Зразумела, пакінуць частку абсталявання і тыражу кніг, якія ён вёз землякам, Скарыну прымусіла толькі крайняя неабходнасць.

Нягледзячы на ўсе цяжкасці і перыпетыі, ён заснаваў у Вільні, у доме «наистаршего бурмистра» Якуба Бабіча, свайго пратэктара, першую на сучаснай тэрыторыі Савецкага Саюза друкарню і выпусціў у свет «Малую падарожную кніжку» (каля 1522 г.) і «Апостал» (1525 г.).

У віленскі перыяд, таксама як і ў чэшскі, Скарына вёў актыўна дзейны вобраз жыцця гуманіста. Відаць, у 1525 г., у разгар рэфармацыйнага руху і сялянскай вайны ў Германіі, ён наведаў Вітэнберг, дзе сустрэўся з Лютэрам і Меланхтонам. Эрудзіраваны, патрыятычна настроены, верацярпімы беларускі гуманіст прыйшоўся не даспадобы фанатычнаму Лютэру.

Імя Скарыны («egregio uiro d[omi]no Francisco, medicinae doctore») сустракаецца ў акце Літоўскай метрыкі за 1526 г. У дакуменце паведамляецца, што беларускі гуманіст побач з вілен-

---

[16] Владимиров Л. И. Издательская деятельность Франциска Скорины в Великом княжестве Литовском // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. С. 39—40.

скім педагогам і гуманістам Янам Сільвіем, доктарам грамадзянскага і царкоўнага права, схаластыкам Якабам Сташкоўскім, падскарбіем Георгіем Хвалькоўскім, маршалкам Пятром Газніскім і іншымі выступаў у якасці сведкі пры падпісанні фундуша, дадзенага слуцкім князем Георгіем Сямёнавічам віленскаму епіскапу Яну на заснаванне парафіі, касцёла і школы ў мястэчку Вясейі (Весічы) Гродзенскага павета[17]. Напэўна, Скарына прысутнічаў і пры зацвярджэнні гэтага фундуша Жыгімонтам I у Варшаве 18 верасня 1526 г. Акт гэты сведчыць, што сувязі Скарыны з Янам «з князёў літоўскіх» існавалі ўжо ў 1526 г.

Ёсць падстава сцвярджаць, што прыкладна ў 1525—1533 гг. Скарына ездзіў у Маскву з мэтай распаўсюджання выдадзеных ім кніг і арганізацыі там кнігавыдання. Аднак для гэтага ў Расіі яшчэ не была падрыхтавана адпаведная глеба. Як вынікае са зместу інструкцыі, дадзенай каралём і вялікім князем Жыгімонтам Аўгустам у 1552 г., «пры панаванні нашага боскага бацькі (г. зн. Жыгімонта I Старога.— *В. Д.*) нейкі яго падданы, кіруючыся набожным жаданнем і наважыўшыся надрукаваць і выдаць на рускай мове святое пісанне, прыбыў да маскавіцян; гэтыя кнігі былі публічна па загаду князя (Васіля.— *В. Д.*) спалены, таму што былі выдадзены падданым рымскай царквы (указанне на каталіцкае веравызнанне Скарыны.— *В. Д.*) і ў месцах (Празе і Вільні.— *В. Д.*), якія падлягаюць яе ўладзе»[18].

Як вядома, у час праўлення Жыгімонта I (1506—1548 гг.) выданнем святога пісьма на «рускай мове» ніхто, акрамя Скарыны, не займаўся. Факт гэтай паездкі поўнасцю ўзгадняецца перш за ўсё з агульнарускім характарам дзейнасці Скарыны і жаданнем гуманіста пашыраць свае сувязі са славянскімі народамі. Прычым частка пражскіх і віленскія выданні Скарыны «рэдагаваліся ў асноўным у адпаведнасці са старaславянскай лінгвістычнай традыцыяй, і, значыць, выдавец мог... разлічваць на маскоўскі кніжны рынак» [19].

З выхадам у 1525 г. «Апостала» выдавецка-асветніцкая дзейнасць Скарыны ў Вільні спынілася, безумоўна, не выпадкова. На гэта паўплывалі рад акалічнасцей жыцця і тая неспрыяльная атмасфера, якую стварылі рэакцыйнае, кансерватыўнае духавенства, некаторыя свецкія феадалы і розныя «чыноўнікі» вакол Скарыны.

У 1529 г. Скарына судзіўся з родзічамі сваёй жонкі Маргарыты, якія прэтэндавалі на яе маёмасць у Вільні. Кароль і вялікі князь Жыгімонт I і паны-рада Вялікага княства Літоўскага вырашылі судовую справу ў карысць сям'і Скарыны. Аднак ужо

---

[17] Гл. дадзены зборнік. С. 87.
[18] Там жа. С. 202.
[19] Алексютовіч М. А. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд. Мн., 1958. С. 49—50.

ў наступным годзе, відаць, родзічы Маргарыты ці крэдыторы гуманіста зноў дапякалі Скарыну судамі. Цяжкае становішча і, магчыма, некаторыя іншыя абставіны (пошукі мецэната, друкароў) прымусілі Скарыну пайсці на службу да прускага герцага Альбрэхта. Здзіўлены незвычайнымі здольнасцямі «выдатнага і шматвопытнага мужа Францыска Скарыны з Полацка, доктара прыгожых мастацтваў і медыцыны, даравітага выкладчыка», Альбрэхт спяшаецца залічыць яго ў прыдворнае акружэнне і аб'явіць «падданым і верным слугой».

Аднак знаходжанне ў свіце герцага беларускага вучонага было кароткачасовым. Цяжкія сямейныя і іншыя невядомыя нам абставіны клікалі на радзіму. З пасланнем Альбрэхта да віленскага ваяводы Гаштольда ад 16 мая 1530 г., у якім герцаг прасіў аказаць Скарыне ўсякае спрыянне «ў яго справах, несправядліва заблытаных», з ахоўнай падарожнай граматай ад 16 мая і лістом уплывовага пратэктара да Віленскага сената ад 18 мая беларускі гуманіст пакідае Кёнігсберг. Праз некалькі дзён герцаг скардзіўся віленскаму ваяводзе ў лісце ад 26 мая, што Скарына тайна забраў з сабой яго яўрэя-лекара, а таксама друкара. Гэта наводзіць на думку, што Скарына збіраўся яшчэ аднавіць у 1530 г. сваю кнігавыдавецкую дзейнасць. Аднак недахоп грашовых сродкаў, вялікі пажар у Вільні летам 1530 г., які спустошыў дзве трэці горада, пастаянныя судовыя ўціскі на працягу 1529—1532 гг., неспрыяльны, варожы «клімат» вакол Скарыны перашкодзілі яму аднавіць работу друкарні.

Захаваліся дакументы, якія паказваюць, што за даўгі свайго брата Івана, які памёр, верагодна, у 1529 г., ён быў беспадстаўна арыштаваны і пасаджаны крэдыторамі і іншымі асобамі ў пазнанскую турму ў лютым 1532 г., дзе прасядзеў больш чатырох месяцаў. Адтуль ён быў вызвалены з дапамогай пляменніка Рамана 17 чэрвеня 1532 г., які не без уплыву і дапамогі віленскага каталіцкага епіскапа Яна [20] (у яго Скарына служыў лекарам і сакратаром) дамогся адпаведнага загаду караля і вялікага князя Жыгімонта I ад 24 мая. 17 чэрвеня 1532 г. Скарына і яго ўпаўнаважаны Мацей Лонгій зрабілі заяву перад радай Познані і патрабавалі грашовай кампенсацыі памерам 6000 залатых венгерскіх фларэнаў за беспадстаўны арышт Францыска і асуджэння віноўных у яго арышце [21]. Пазней спецыяльнай граматай ад 21 лістапада 1532 г. Жыгімонт I поўнасцю вызваляў яго «ад нападаў і дамаганняў з боку ўсякіх крэдытораў, якога б там ні было абраду».

Своеасаблівым прызнаннем заслуг Скарыны з'явілася новая грамата Жыгімонта I ад 25 лістапада 1532 г. «у абарону доктара Францыска Скарыны з Полацка», якой кароль браў пад асабістую апеку беларускага вучонага і вызваляў яго з-пад ула-

---

[20] Гл. дадзены зборнік. С. 150.
[21] Там жа. С. 149—151.

ды звычайнага суда, «ад усякіх павіннасцей і гарадскіх служ-баў», «з-пад юрысдыкцыі і ўлады ўсіх і кожнага паасобку — ваяводаў, кашталянаў, старостаў і іншых саноўнікаў, [ніжэйшых земскіх]ураднікаў і ўсякіх суддзяў» [22]. Гэта грамата паказвае, у якіх цяжкіх умовах даводзілася жыць і працаваць Скарыну на радзіме, калі нават сам кароль і вялікі князь вымушаны быў заступіцца за яго.

Атрыманая перамога, здавалася б, давала гуманісту надзею на лепшую будучыню. Але яна была часовая. Не атрымаўшы падтрымкі ў Маскве і зазнаўшы здзек з боку кансерватыўных колаў Вялікага княства Літоўскага, беларускі гуманіст фактычна аказаўся паміж «двух агнёў». Уціск з боку свецкіх феадальных і царкоўных улад, цяжкае матэрыяльнае становішча і адсутнасць належнай падтрымкі яго ідэй і пачынанняў прымусілі Скарыну каля 1535 г. пакінуць Вільню і зноў пасяліцца ў Празе.

У чэшскай сталіцы Скарына працаваў вучоным батанікам, садоўнікам у каралеўскім батанічным садзе (заснаваны ў 1534 г.), у арганізацыі якога ён прыняў непасрэдны ўдзел. У распараджэнні чэшскага караля Фердынанда I Габсбурга Скарына, на наш погляд, быў у маі 1535 г., аб чым сведчаць матэрыялы перапіскі караля са сваімі высокапастаўленымі чыноўнікамі. Так, у лісце ад 2 мая 1535 г. Фердынанд I паведамляў пражскаму гетману Герсдорфу, што ён двойчы пасылаў яму насенне, але Герсдорф не знайшоў у Празе ніводнага чалавека, які б разбіраўся ў ім: кароль абяцаў праслаць садоўніка. У допісе ад 22 мая 1535 г. Фларыяну Грыспеку, сакратару Багемскай каморы (палаты), Фердынанд I пісаў з Вены: «Паколькі ты не раз пісаў нам, што мы павінны накіраваць табе садоўніка для работы ў Празе, дык мы пасылаем табе з прад'яўнікам ліста; ты зможаш выкарыстаць яго пры неабходнасці для арганізацыі новага сада; мы далі яму на харч і ўтрыманне 20 фларэнаў, а цябе просім паклапаціцца аб астатнім утрыманні на час яго знаходжання» [23]. Гэтым неабходным для чэшскага караля і чэшскай культуры вучоным быў Францыск Скарына, які, напэўна, добра быў падрыхтаваны і ў прыродазнаўчых навуках. Вывучэнне батанікі, напрыклад, было дапаможнай дысцыплінай на медыцынскіх факультэтах універсітэтаў. З гэтага дакумента вынікае новая цікавая дэталь з жыцця гуманіста: Скарына пэўны час спыняўся ў Вене і шлях яго з Вільні ў Прагу быў кружны. Чэшскі летапісец Сватэк называе першым каралеўскім садоўнікам Францыска, але нічога не гаворыць пра яго адыход з Прагі ў 1539 г.

У перапісцы Багемскай каморы з Фердынандам I за 1538—1539 гг. неаднойчы нагадваецца імя садоўнікаў «meister Francisco», «meister Francisco welisch gartner», якія хутчэй за ўсё бы-

---

[22] Гл. дадзены зборнік. С. 158.
[23] Там жа. С. 163.

лі адной асобай — Францыскам Скарынам [24]. У лісце Багемскай каморы ад 27 чэрвеня 1538 г. каралю, у прыватнасці, сказана: «На садоўніка, майстра Францыска ў яго настаўленні, напісаным па-лацінску, і мы яго разумеем, ускладзен абавязак працаваць у садзе і выконваць любую працу садоўніка, як Ваша Вялікасць усеміласціва даведалася з копіі гэтага настаўлення» [25]. Дарэчы, гэты дакумент (настаўленне) і копія да нашага часу не знойдзены. У ім беларускі вучоны, відаць, выклаў свае прыродазнаўчыя, навуковыя погляды на прынцыпы арганізацыі пражскага сада, аб чым і было паведамлена каралю.

Фердынанд І жадаў, каб закладка сада і будаўніцтва ў ім вяліся на ўзор лепшых італьянскіх рэнесансных садоў (батанічны сад у Падуі закладзены ў 1533 г.). Скарына быў на вышыні найноўшых дасягненняў у сваёй галіне. Былі запрошаны італьянскія і чэшскія скульптары і майстры. Але не ўсё ішло гладка і хутка, як хацелася б каралю і яго чыноўнікам, пастаянна не хапала грашовых сродкаў. У лісце Багемскай каморы ад 4 красавіка 1539 г. каралю, між іншым, паведамляецца, што майстру Францыску «мы павінны да двухсот гульдэнаў».

Нялёгка жылося ў Празе Скарыну і яго сябрам. Іх падганялі ў працы, даносілі пра ўсё каралю. Але гэта была любімая работа, якая з часам прынесла свае вынікі. У дапісе Фердынанда І Грыспеку ад 21 ліпеня 1539 г. зазначаецца: «...Па-першае, адносна майстра Францыска, італьянскага садоўніка; Багемскай каморы быў аддадзены наш загад аплаціць яго працу па часе і разлічыцца з ім, і каб вы яго больш не затрымлівалі. Пра ўсё гэта мы апавешчаны дастаткова, таму што ён пасля гэтага прыбыў да нашага двара і затрымаўся нейкі час тут і ў Нойштадце. Нам паведамілі таксама, што прыгаданы Францыск перад сваім ад'ездам не прычыніў дрэвам ніякай шкоды; было паведамлена таксама, што памяранцы, смакоўніцы, фігавыя і іншыя дрэвы стаяць у такім жа добрым парадку, як мы іх пакінулі, чым мы задаволены» [26]. Гэтыя словы ўдзячнасці, выказаныя, відавочна, у адрас Скарыны, характарызуюць вынікі яго вялікай працы ў пражскім каралеўскім садзе.

Відаць, у Чэхіі Скарына правёў апошнія гады свайго жыцця і памёр удалечыні ад радзімы ў канцы 1551 г. ці ў студзені 1552 г. Ускосным сведчаннем таму служыць грамата Фердынанда І ад 29 студзеня 1552 г., дадзеная сыну Скарыны Сімяону [27] на права адшукання і валодання спадчынай бацькі. Зразумела, што сын пачаў клапаціцца аб бацькавай маёмасці ў хуткім часе пасля яго смерці. У грамаце, дарэчы, сказана, што «доктар

---

[24] Алексютовіч М. А. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд. С. 57.
[25] Гл. дадзены зборнік. С. 167.
[26] Там жа. С. 183—184.
[27] У чэшскіх хроніках захаваліся звесткі, якія адносяцца да 80—90-х гадоў XVI ст., пра «паляка Сімяона па прозвішчу Рус з Полацка», які займаўся медыцынскай практыкай і садаводствам у Чэхіі.

Францішак Рус Скарына з Полацка... наш садоўнік, у гэтым каралеўстве Чэшскім быўшы чужынцам,— сышоў на вечны спакой і пакінуў пасля сябе сына Сімяона Руса і пэўную маёмасць, паперы, даўгі і іншае яму належнае» [28]. На жаль, прыгаданыя паперы, пазыковыя абавязацельствы і іншыя юрыдычныя дакументы Скарыны за 40-я гады XVI ст. яшчэ не знойдзены.

Зразумела, што далёка не ўсе факты біяграфіі першадрукара, поўнай загадак і таямніц, нам вядомы. Частка іх страчана для гісторыі назаўсёды. Аднак і з наяўных звестак відаць, якой каларытнай, выдатнай і магутнай асобай эпохі Адраджэння быў Францыск Скарына. Яго вялікі прыродны талент, незвычайная эрудыцыя, цудоўнае разуменне ім практычных задач эпохі і творчая смеласць не раз здзіўлялі сучаснікаў і нашчадкаў.

У шматграннай дзейнасці Скарыны найбольш велічным з'яўляецца яго подзвіг як усходнеславянскага першадрукара і гуманіста-асветніка. Скарына — сапраўдны рэфарматар і наватар кнігавыдавецкай справы, першы ўсходнеславянскі практык і тэарэтык мастацтва кнігі. «Яго наватарства заключаецца ў тым, што ён упершыню ў гісторыі ўсходнеславянскай кнігі для зручнасці чытання тэксту ўвёў прынцып дзялення радка на словы з інтэрваламі паміж імі, а самога тэксту на абзацы. Скарына поўнасцю адмовіўся ад пасшыткавай нумарацыі кніг і пачаў выкарыстоўваць пааркушную, прастаўляючы яе на правых старонках (і на адваротным баку аркуша: у Кнізе прамудрасці божай.— *В. Д.*) кірылаўскімі літарамі. У загалоўках ён адмовіўся ад мудрагелістай і цяжкачытэльнай вязі, якая ў рукапісных і друкаваных кнігах ужывалася галоўным чынам для дэкаратыўнай аздобы. Скарына звёў да мінімуму колькасць надрадковых, так званых дыякрытычных знакаў: цітлаў, якімі карысталіся для скарачэння слоў... (цітлаў у кнігах Скарыны яшчэ даволі шмат.— *В. Д.*). Ён спрасціў царкоўнаславянскі алфавіт, уніфікаваў яго абрысы і тым самым зрабіў першы крок да стварэння грамадзянскага шрыфту, уведзенага ў XVIII ст. Пятром I. Яго тэкставы шрыфт, які вызначаўся прастатой і выразнасцю, быў вынікам творчага сплаву, з аднаго боку, беларускага паўустава, а з другога — некаторых элементаў лацінскай антыквы. Не выпадкова шрыфт Скарыны доўгі час служыў узорам для пераймання наступнымі пакаленнямі кнігадрукароў Беларусі і Украіны» [29].

Выданні Скарыны з'явіліся творчым сінтэзам дасягненняў заходнееўрапейскага кнігавыдання і мастацкага вопыту ўсходнеславянскай рукапіснай кнігі. Клапоцячыся пра знешняе афармленне, зручны фармат і даступнасць сваіх кніг, ён адмовіўся ад фаліянтных памераў і выдаваў Біблію «малыми книжками» — асобнымі выпускамі (унікальная з'ява ва ўсёй еўрапейскай кні-

---

[28] Гл. дадзены зборнік. С. 186.

[29] История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 102—103.

гадрукарскай практыцы) невялікага фармату: пражскія кнігі выдадзены ў 4-ю долю аркуша, «Малая падарожная кніжка» ў 12-ю долю, «Апостал» 1525 г. у 8-ю долю. Скарына ўпершыню ў практыцы кірыліцкага кнігадрукавання ўвёў тытульны ліст, звычайна заняты ў яго выданнях гравюрай, пад якой змяшчаецца загаловак кнігі, пададзены вялікімі літарамі з упрыгожанай буквіцай-ініцыялам. Наследуючы традыцыі афармлення славянскіх рукапісаў і першадрукаў, Скарына вельмі часта выкарыстоўваў застаўкі, выкананыя ў духу арнаментыкі эпохі Адраджэння, а таксама двухфарбнасць, асабліва ў віленскіх выданнях. Ён творча развіваў вопыт еўрапейскіх друкароў. Укажам на заўважаную яшчэ П. У. Уладзіміравым сувязь «Малой падарожнай кніжкі» з царкоўнаславянскім «Малітвасловам» (Венецыя, 1520) паўднёваславянскага друкара Бажыдара Вуковіча. Скарына адрасаваў сваю «кніжку» міранам, купцам, рамеснікам, якім часта даводзілася бываць у дарозе. Вуковіч таксама адзначаў, што і яго кнігі «в поуть ходештимь оудобь носима бывают».

Адзначаныя кнігі Скарыны і Вуковіча ўзыходзяць да заходнееўрапейскіх дарожных выданняў таго часу, якія называліся «Liber viaticus».

Скарына творча развіваў і вопыт венецыянскіх друкароў, у прыватнасці Альда Мануцыя, з якім мог быць асабіста знаёмы, багата ўпрыгожваў свае кнігі тэматычнымі гравюрамі, віньеткамі, ініцыяламі, функцыянальная роля якіх была ў тым, каб зрабіць тэкст больш зразумелым і даступным для простага чытача, а ўсю кнігу эстэтычна дасканалай, цікавай: «А то для таго, абы братия моя Русь, люди посполитые, чтучи, могли лепей разумети» [30]. Гравюры скарынінскіх кніг — гэта выразны почырк Рэнесанса і бліскучае развіццё гравюрнага майстэрства лепшых нямецкіх і італьянскіх мастакоў, а таксама культуры мастацкага афармлення ўсходнеславянскай рукапіснай кнігі [31]. Скарына, на наш погляд, сам стварыў частку дрэварытаў і малюнкі для шрыфту і быў выдатным мастаком свайго часу. Пафас скарынінскіх ілюстрацый — у праслаўленні стваральнай працы чалавека, у адсутнасці іканапіснай манеры паказу персанажаў [32].

Асабліва яркай гравюрай з'яўляецца двойчы ўжыты ў «Бібліі рускай» (у Кнізе Ісуса Сірахава і Кнізе Царстваў) свецкі партрэт самога гуманіста, што сведчыць аб індывідуальных, смелых рэнесансна-гуманістычных адносінах беларускага мысліцеля да свяшчэннага пісання. Змяшчэнне партрэта выдаўца ў

[30] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 47.

[31] Падрабязней пра гэта гл. у кн.: Дорошкевич В. И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы: Первая половина XVI в. Мн., 1979. С. 30—31. Яго ж: Франциск Скорина и Николай Гусовский // Неман. 1979. № 1. С. 170.

[32] Шматаў В. Ф. Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стагоддзяў. Мн., 1984. С. 29—54.

кнігах Бібліі (у практыцы еўрапейскага кнігавыдання факт унікальны!) было святатацтвам, выклікам царкоўнай ідэалогіі. Прычым на ім няма ніводнага рэлігійнага сімвала. Партрэт Скарыны зроблены, відаць, з натуры ў 1517 г. Адлюстраваныя на гравюры кнігі, ксілаграфічныя дошкі, пясочны гадзіннік, гладыш, рэфлектар, «глобус сусвету» (армілярная сфера), кошык, збіральніца мудрасці пчала — усе атрыбуты ўдала раскрываюць шматгранныя інтарэсы Скарыны ў галіне кнігадрукавання, медыцыны, мастацтва, астраноміі. Нягледзячы на наяўнасць вялікай колькасці дэталей, фігура першадрукара, псіхалагічная напоўненасць і багацце натуры — у цэнтры ўвагі таленавітага і вопытнага гравёра. І ў гэтым выяўляецца перш за ўсё ўплыў рэнесанснага стылю.

Партрэт Скарыны, выкананы ў тэхніцы панаваўшай у XV—XVI стст. у заходнееўрапейскай практыцы абразной ксілаграфіі, належыць да лепшых старажытных помнікаў беларускага мастацтва. Вядомы даследчык кнігі А. А. Сідараў пісаў: «З пачуццём уласнага гонару, якое ўпершыню ўзнікла ў славянскім свеце, Скарына змяшчае — і не раз! — у сваіх выданнях (калі не богаслужэбных, то свяшчэнных, традыцыйных кніг) не выяву легендарных святых, а ўласны партрэт... На гэтым партрэце, што мае сапраўды гістарычнае значэнне, Скарына паўстае перад намі ў зусім новым абліччы. Ён не прадпрымальнік, як Фіёль, і не манах, як Макарый. Скарына—выдавец, а не друкар, не работнік станка. Ён — вучоны, інтэлігент, пісьменнік, перакладчык, ён ідэолаг, рэдактар, мовазнаўца і грамадскі дзеяч. Ён перш за ўсё патрыёт і асветнік» [33]. У левым ніжнім кутку гравюры ёсць манаграма МТЗ МЗ, ці МЦ, якая да цяперашняга часу, на жаль, не расшыфравана [34]. Мы мяркуем, што манаграма належала невядомаму беларускаму мастаку, суайчынніку Скарыны.

Самабытнасць мастацкага афармлення і арыгінальнасць выданняў Скарыны зрабілі вялікі ўплыў на далейшае развіццё беларускай і ўсходнеславянскай графікі; яго гравюры пераймалі чэшскія (Севярын) і нямецкія (Трубер) друкары. Імкнучыся наблізіць Біблію да шырокага чытача, Скарына растлумачваў незразумелыя словы, упершыню ў практыцы ўсходнееўрапейскага кнігавыдання ўвёў элементы бібліяграфічнага даведачнага апарата. Кнігавыдавецкія новаўвядзенні, якасць перакладу, бездакорнае мастацкае афармленне ў спалучэнні са зместам прадмоў, пасляслоўяў, у якіх ён часткова раскрыў свой светапогляд, мэту і прызначэнне кніг, надавалі скарынінскай Бібліі шмат у чым свецкі характар, зрабілі яе каштоўным і не-

---

[33] Сидоров А. А. Узловые проблемы и нерешенные вопросы русского книгопечатания // Книга. Исслед. и материалы. М., 1964. Сб. 9. С. 24.

[34] Падрабязней пра гэта гл. у кн.: Шматаў В. Ф. Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стагоддзяў. С. 47—49.

паўторным помнікам не толькі славянскага, але і еўрапейскага мастацтва. Яшчэ П. У. Уладзіміраў справядліва адзначыў: «Кнігі Скарыны ў друкарскіх адносінах далёка пераўзыходзяць не толькі папярэднія царкоўнаславянскія выданні, але нават і сучасныя Скарыну венецыянскія» [35].

Асветніцка-педагагічная і гуманістычная скіраванасць дзейнасці Скарыны заключаецца перш за ўсё ў выкарыстанні ім кнігадрукавання як магутнага сродку выхавання і асветы народа, Бібліі як выдатнага літаратурнага помніка і энцыклапедычнай крыніцы ведаў, кнігі як важнага інструмента духоўнага самаўдасканалення чалавека. Беларускі гуманіст мэтанакіравана імкнуўся выкарыстаць Біблію на ніве ўсходнеславянскай асветы ў канкрэтна-гістарычных мясцовых умовах. Таму яго дзейнасць мела глыбока дэмакратычны, патрыятычны і інтэрнацыянальны характар. На гэту асаблівасць скарынінскіх выданняў, акрамя прызнанняў самога першадрукара, указваюць шырокая геаграфія распаўсюджання яго кніг, асабліва на Беларусі, Украіне, у Расіі, Літве, паўднёваславянскіх краінах, імкненне гуманіста распачаць кнігавыдавецкую справу ў Маскве і «руская» мова яго выданняў — агульназразумелы для ўсходніх славян высокі кніжны стыль, у аснове якога ляжыць своеасаблівы сінтэз беларускай і царкоўнаславянскай моў.

«Біблейскі метад», выкарыстаны Скарынам, арганічна, але не адэкватна ўвабраў усю гаму яго пачуццяў і светапогляду. Беларускі мысліцель і пісьменнік, як і большасць еўрапейскіх гуманістаў эпохі Адраджэння, быў шматмоўным творцам, пісаў і перакладаў свецкія творы, філасофскія і прыродазнаўчыя трактаты, якія пакуль не адшуканы. Таму аб'ектыўна і ўсебакова раскрыць грамадска-палітычныя, філасофскія і эстэтычныя погляды Скарыны, іх эвалюцыю пры адсутнасці, нявыяўленасці яго спецыяльных навуковых прац, свецкіх мастацкіх твораў толькі на аснове кароткіх, сінкрэтычных, папулярных прадмоў да біблейскіх кніг, звернутых да простага чытача, даволі цяжка. Веды, інтэлектуальны і творчы патэнцыял і светапогляд Скарыны былі намнога багацейшыя, больш рознабаковыя, чым яны адлюстраваны ў прадмовах, хоць, бясспрэчна, аб некаторых істотных рысах яго светапогляду можна меркаваць і па іх зместу.

У светапоглядзе Скарыны сустракаліся элементы стыхійнага народнага матэрыялізму, вальнадумства, першабытнага камунізма, аднак у цэлым светапогляд гуманіста заставаўся рэлігійна-ідэалістычным і заснаваны на сінтэзе народных, антычных, раннехрысціянскіх (у тым ліку грэка-візантыйскіх, рымска-лацінскіх, старажытнарускіх) і рэнесансных культурных традыцый. М. А. Алексютовіч, які ўпершыню грунтоўна прааналізаваў ідэйна-літаратурную спадчыну Скарыны, справядліва падкрэс-

[35] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина. С 70.

ліваў, што па сваіх грамадска-палітычных поглядах гуманіст быў ідэалагічным выразнікам сярэдніх слаёў гараджан Беларусі, «патрабаванні якіх у агульных рысах адпавядалі інтарэсам працоўных мас»[36]. Пры гэтым варта падкрэсліць, што рэнесансна-гуманістычная па свайму характару светапоглядная сістэма беларускага першадрукара і мысліцеля не ўмяшчалася ў рамкі сярэдневяковай, артадаксальна хрысціянскай, карпаратыўнай педагогікі, этыкі і эстэтыкі.

У цэнтры ўвагі Скарыны, як і ў многіх тагачасных гуманістаў, быў чалавек. Іменна выхаванне дзейнага, усебакова развітога, гарманічна і духоўна дасканалага чалавека, патрыёта і грамадзяніна з'яўлялася галоўнай задачай яго культурна-асветніцкай праграмы: «Да совѣршен будеть человѣк божий и на всяко дѣло добро уготован, яко святый апостол Павел пишеть»[37] (гл.: 2-е пасланне ап. Паўла Цімафею. 3 : 17). Скарына таксама ставіў перад чалавекам задачу самапазнання і пазнання свету. «Ест наивышшая мудрость,— пісаў ён, далучаючыся да антычных філосафаў,— розмышлѣние смерти и познание самого себе». У гэтай сувязі ён задумваўся над вечным і галоўным пытаннем чалавецтва ўсіх часоў: «Яко ся имамы справовати и жити на сем свете»[38]. І адказ гуманіст шукаў не толькі ў кніжнай і народнай мудрасці, але і ў праявах самога жыцця.

Беларускі мысліцель, для якога не было характэрна пачуццё элітарнасці, прапаведаваў ідэі народнага і хрысціянскага гуманізму і асветніцтва: патрыятызм, працавітасць, праўдзівасць, высакародства, «чистоту душевную и телесную». Ён настойліва сцвярджаў у «Сказании... в Книги втораго закону Моісеова»: «То чинити иным всем, что самому любо ест от иных всех, и того не чинити иным, чего сам не хощеши от иных имети» ці: «Возлюбиши ближнего своего, яко сам себе»[39] (гл.: Евангелле ад Мацфея. 22 : 39). «У этыцы, якая займае цэнтральнае месца ў комплексе яго філасофскіх поглядаў, Скарына імкнуўся сінтэзаваць сафістычна-сакратаўскую індывідуалістычную канцэпцыю чалавека з арыстоцелеўска-хрысціянскай канцэпцыяй залежнасці і падпарадкаванасці чалавека інтарэсам агульнага дабра, грамадскага абавязку»[40].

Зыходзячы з этычнай максімы, Скарына абгрунтоўваў асноўныя прынцыпы заканадаўства. І гэта не выпадкова, таму што пэўнае абнаўленне дзейнасці грамадскіх інстытутаў Вялікага княства Літоўскага XVI ст., якое адбывалася на вачах беларускага вучонага (запрыгоньванне сялян, рост прывілеяў шляхты, частковая эмансіпацыя гарадскога саслоўя і інш.), патрабавала

---

[36] Алексютовіч М. А. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд. С. 121.
[37] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 9.
[38] Там жа. С. 15, 17.
[39] Там жа. С. 93, 94.
[40] Подокшин С. А. Скорина и Будный: Очерк философских взглядов. Мн., 1974. С. 46.

выпрацоўкі адпаведных з новымі гістарычнымі ўмовамі прававых норм. Паводле Скарыны, грамадства ў сваёй жыццядзейнасці кіруецца натуральным (звычаёвым) і пісаным правамі, якія абавязаны забяспечыць гармонію паміж асобай, грамадствам і дзяржавай. Пісанае права — гэта закон, які ствараецца ў адпаведнасці са звычаямі краіны і грамадска-гістарычнымі ўмовамі і павінен быць усеагульным: «не к пожитку одиного человѣка, но к посполитому доброму написаный» [41]. Толькі тады будзе забяспечана справядлівасць і раўнапраўе людзей. Юрыдычныя погляды Скарыны былі сугучнымі вядучым тэндэнцыям свайго часу. Як вядома, у Вялікім княстве Літоўскім у пачатку XVI ст. існаваў палітычна-грамадскі рух шляхты і гараджан за ўвядзенне ў дзяржаве універсальнага кодэксу законаў феадальнага грамадства, якія б абмяжоўвалі самавольствы магнатаў. У гэтым сэнсе скарынінскія кнігі адыгралі пэўную ролю ў фарміраванні грамадскай думкі, падрыхтоўцы глебы для складання і ўвядзення статутаў Вялікага княства Літоўскага (1529, 1566, 1588 гг.). Да таго ж Скарына мог быць адным са складальнікаў Статута 1529 г.

Прапаганда беларускім гуманістам асветы, яго імкненне к «размноженню мудрости, умения, опатренности, разуму и науки», пошукі справядлівасці і дабра, праслаўленне антычных і біблейскіх дзяржаўных дзеячаў сведчаць аб тым, што ён марыў аб ідэальным грамадстве і дзяржаве, грамадстве вечнага міру, справядлівасці, розуму і раўнапраўя людзей, у якім будзе панаваць «ровная свобода всем, общее имение всех». Скарына па характару дзейнасці з'яўляўся прадвеснікам Рэфармацыі ў Вялікім княстве Літоўскім; ён імкнуўся абгрунтаваць неабходнасць абнаўлення асветы, маралі і права. Аднак большасць гэтых ідэй пры жыцці гуманіста не знайшлі належнай падтрымкі на радзіме.

Гуманістычны грамадска-палітычны ідэал Скарыны быў абстрактны, ідэалістычны, супярэчлівы і утапічны, аднак у цэлым ён меў зямную накіраванасць і жыццесцвярджальны характар. Асветнік Скарына, як і большасць гуманістаў яго часу, з'яўляўся сацыяльна-культурным рэфарматарам. Для яго характэрна асветніцкая утопія. Таму, з аднаго боку, ён спачувае прыгнечаным: «богатии, обидяще убогих, приимут отмщение», а з другога — рэкамендуе ім «до часу терпети».

Эвалюцыя натурфіласофскіх, прыродазнаўчых поглядаў Скарыны, доктара медыцыны, вучонага батаніка, з-за адсутнасці адпаведных канкрэтных матэрыялаў да сённяшняга часу не раскрыта. Пэўнае ўяўленне аб яго астранамічных ведах, якія адпавядалі ўзроўню астранамічнай навукі XVI ст., дае асэнсаванне зместу заключнай часткі «Малой падарожнай кніжкі» — «Святцы краткія і пасхалія». Гэта свайго роду першы друкава-

---

[41] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 95.

ны астранамічны каляндар для шырокага ўсходнееўрапейскага чытача, у якім паведамляюцца даўжыня дня і ночы, даты вясенняга і асенняга раўнадзенства, летняга і зімняга сонцастаяння, прадказваюцца зацьменні сонца і месяца і г. д. Скарынінская традыцыя пазней была шырока падхоплена і развіта выдаўцамі Беларусі і Літвы ў XVI—XVIII стст. Каляндарныя звесткі і календары неаднойчы выдаваліся ў друкарнях Мамонічаў, Карцана, брацтваў, Віленскай акадэміі і інш.

Эстэтычныя погляды Скарыны ярка ўвасобіліся ў яго творчай дзейнасці як выдатнага перакладчыка, інтэрпрэтатара і каментатара біблейскіх тэкстаў, літаратурнага крытыка, пісьменніка, мастака, мовазнаўцы; больш таго, яны пранізваюць увесь светапогляд гуманіста. Па сутнасці, у Скарыны назіраецца агульная для ўсёй еўрапейскай гуманістычнай традыцыі XVI ст. тэндэнцыя — эстэтызацыя поглядаў, арыентацыя на мастацкаваобразны, рэнесансны ідэальна-цэласны тып культуры. Гэта з'ява характэрна іменна для рэнесанснага інтэлігента, які даволі паўнакроўна пачаў успрымаць з'явы жыцця. Адсюль заканамернае ўзмацненне індывідуальна-эмацыянальных, эстэтычных ацэнак і праблематыкі ў прадмовах і самім перакладзе Бібліі.

Скарынінскі пераклад Бібліі, на якім ляжыць адбітак яркай творчай індывідуальнасці, з'яўляецца выдатнай з'явай у культурна-літаратурным жыцці Усходняй Еўропы. Ён мае не толькі літаратурна-эстэтычнае, але і светапогляднае значэнне. Імкнучыся рэканструяваць Біблію ў «чыстым выглядзе», Скарына даследаваў і яе зямное, «чалавечае» паходжанне, называў многіх першатворцаў біблейскіх, «боганатхнёных» кніг. Ён пераклаў кнігі «Юдзіф», «Ісуса Сірахава», «Прамудрасці Саламона», якія не ўваходзяць у кананічны звод праваслаўнай Бібліі. Парадак выдання беларускім гуманістам кніг свяшчэннага пісання не адпавядае кананічнаму раду, прынятаму ў хрысціянскай царкве. Здымаючы з Бібліі арэол святасці і адрасуючы яе на роднай мове шырокаму чытачу, Скарына рупліва вывучыў і выкарыстаў не толькі адпаведныя крыніцы на царкоўнаславянскай, але і на чэшскай («Біблію чэшскую, у Венецыі друкаваную» ў 1506 г.), лацінскай (Вульгату), старажытнаяўрэйскай і грэчаскай (Сэптуагінту) мовах. Ён фактычна ішоў насуперак намаганням царквы (яна забараняла веруючым чытаць поўны тэкст Бібліі), вучыў людзей успрымаць біблейскія тэксты не толькі на веру, а свядома. Сучасны даследчык слушна зазначае: «Зварот да тэксту Бібліі ўжо першых прадстаўнікоў гуманістычнага руху не ўкладваўся ў рамкі царкоўнай традыцыі. Свяшчэнная кніга хрысціянскай рэлігіі стала ў іх руках перш за ўсё сродкам абароны новай адукаванасці ад нападкаў ахоўнікаў артадоксіі» [42]. Скарына разам з іншымі еўрапейскімі гумані-

---

[42] Черняк И. Х. Поджо и зарождение гуманистической критики Библии // Культура эпохи Возрождения. Л., 1986. С. 217.

стамі закладваў асновы для стварэння навуковай крытыкі Біблії, дэсакралізацыі помніка. У гэтай галіне асабліва плённай была дзейнасць выдатнага паслядоўніка Скарыны С. Буднага. Ідучы шляхам сінтэзу сусветнай філасофскай і перакладчыцкай культуры, Скарына абыходзіўся з тэкстам святога пісьма даволі свабодна, творча і смела. Ён імкнуўся захаваць арыгінальны дух тэксту і ў першую чаргу выдаў тыя кнігі Бібліі, якія адпавядалі асветніцка-выхаваўчым і пазнавальным мэтам.

Гуманістычныя ідэі Скарыны як філолага, мовазнаўцы і тэкстолага новага тыпу ўвасобіліся і ў мове яго выданняў. Погляд на мову Скарыны як на беларускую рэдакцыю царкоўнаславянскай мовы [43] мае сваё права на існаванне. Разам з тым неабходна падкрэсліць, што пры гэтым аргументавана не ўлічваецца функцыяльнае прызначэнне «Бібліі рускай» — для ўсіх усходніх славян, «людям посполитым рускаго языка» — і роля беларускіх элементаў у агульнай моўна-перакладчыцкай сістэме Скарыны. Бясспрэчна, яго слова адрозніваецца ад мовы статутаў, летапісаў — свецкай, дзелавой пісьменнасці таго часу. Але не выпадкова гуманіст-асветнік называў мову сваіх перакладаў, як ужо падкрэслівалася, «рускай», г. зн. тагачаснай беларускай — агульназразумелай для ўсіх усходніх славян (а не толькі для беларусаў!), і стварыў высокі кніжны стыль, у якім пераважаў сінтэз беларускай і царкоўнаславянскай моў з выкарыстаннем элементаў сусветнай моўнай культуры. Таму вялікі яго ўклад у распрацоўку, развіццё і замацаванне ў друку норм беларускай літаратурнай мовы. Нават у адаптаваных выданнях («Псалтыр», «Малая падарожная кніжка», «Апостал»), напісаных «рускыми словами а словенскым языком», г. зн. у асноўным на царкоўнаславянскай мове, Скарына аддаў вялікую даніну беларускай мове і фактычна выпрацаваў беларускі тып кніжна-славянскай мовы.

Абаронца роднай мовы, Скарына дае патрыятычны наказ: «Не многым учителем бывати, но более умети язык свой справовати; от него же все злые и добрые речи походять» [44] (скарочаны пераказ «Саборнага паслання ап. Якава». 3 : 1—18). Скарына разумеў важнасць роднай мовы як фактару, які спрыяе захаванню цэласнасці народа, яго адзінства і нацыянальнай самабытнасці. Таму ён замацаваў родную мову ў высокай літаратуры сусветнага значэння, выдатным помнікам якой з'яўляецца Біблія, як раўнапраўную, «боскую» побач з класічнымі агульнапрызнанымі кананічнымі (лацінскай, грэчаскай, старажытнаяўрэйскай) мовамі. Ён даказаў яе права на «свяшчэннасць». І ў гэтым яго велізарная заслуга перад сваім народам і ўсім славянскім светам. Біблія Скарыны была першай друкаванай

---

[43] Журавский А. И. Важнейшие особенности изданий Франциска Скорины // Knygotyra (7) 14. Vilnius, 1979. С. 51.
[44] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 121.

Бібліяй ва ўсходніх славян і другой пасля чэшскай у славянскім свеце, разлічанай, падкрэсліваем, на простага, масавага ўсходнеславянскага чытача. Таму неацэнны ўклад беларускага гуманіста-асветніка ў фарміраванне нацыянальнай свядомасці беларусаў і ўсіх усходніх славян.

Заснавальнік ва Усходняй Еўропе новага тыпу аўтарскага перакладу Францыск Скарына зрабіў вялікі ўплыў на станаўленне перакладчыцкай, літаратурнай справы ў славянскіх народаў. Значнай заслугай яго як пісьменніка, літаратурнага крытыка, філолага і першадрукара з'яўляецца тое, што ён давёў да дасканаласці і ўвёў у шырокую практыку кірыліцкага славянскага кнігадрукавання жанр прадмоў, вядомых і пісаных да Бібліі яшчэ ў часы ранняга сярэдневякоўя. У Скарыны «яны не толькі энцыклапедычныя па зместу, але і сінкрэтычныя па свайму жанраваму характару. Большасць з іх фактычна сумяшчае ў сабе рысы навукова-папулярнага літаратуразнаўчага артыкула, гісторыка-філалагічнага каментарыя і пашыранай анатацыі да твора» [45]. Стыль іх сціслы, дзелавы, афарыстычны і разважлівы, як слова мудрага настаўніка. Гэта сапраўдны ўзор навуковай прапаганды ведаў і кнігі. Скарына, такім чынам, заснаваў у беларускай літаратуры навукова-асветніцкую, філасофскую, маральна-дыдактычную публіцыстыку.

Крыніцазнаўчы аналіз творчай спадчыны Скарыны паказвае, што асветнік валодаў класічнымі і многімі еўрапейскімі мовамі, добра ведаў багаслоўе, творча выкарыстоўваў ідэі сярэдневяковай, раннехрысціянскай патрыстыкі, антычнай літаратуры, найноўшыя дасягненні Рэнесанса — можна сказаць, лепшыя духоўныя набыткі чалавецтва — і ў той жа час заставаўся самім сабою, быў арыгінальным мысліцелем.

Скарына разам з Міколам Гусоўскім з'яўляецца адным з першых заснавальнікаў эстэтычнай навукі, літаратурнай крытыкі і бібліяграфіі ў Беларусі. У ідэйна-публіцыстычнай спадчыне Скарыны праглядваюцца зародкі літаратурна-мастацкай крытыкі, тут імпліцытна існуе аналіз сутнасці мастацтва і яго функцый, «здагадка аб змястоўнай шматзначнасці мастацтва ў адрозненне ад тэрміналагічнай адназначнасці навукі, аб разнастайным выхаваўчым уздзеянні музыкі і паэзіі, нарэшце, аб багацці эстэтычнага ўспрыняцця і перажывання» [46]. Скарына выдатна разумеў, што ў адрозненне ад навукі мастацтва звяртаецца «ко всему собору людей», яно ўсенароднае і шматзначнае. У «Предсловии в Притчи премудраго Саломона, царя Израилева» ён пісаў: «Пожиточьны же суть сие книги чести всякому человѣку, мудрому и безумному, богатому и вбогому,

---

[45] Чемерицкий В. А. Скорина и становление белорусской литературы // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. С. 74.

[46] Конон В. М. Эстетические взгляды Скорины // Там жа. С. 83.

младому и старому, наболѣи тым, они же хотять имети добрые обычае и познати мудрость и науку».

У Скарыны, які рашуча адкідаў сярэдневяковую ананімнасць, надзвычай развітая аўтарская самасвядомасць вучонага і пісьменніка, што адпавядае літаратурнаму этыкету і стылю эпохі Рэнесанса. Да «собора людей» ён звяртаўся не толькі з натхнёным публіцыстычным словам, але і з вершамі, акравершамі. У першых друкаваных вопытах кніжнага ўсходнеславянскага вершаскладання на роднай мове, дадзеных у прадмовах да пражскіх выданняў, вялікі палачанін геніяльна ўгадаў будучы рух беларускай і шырэй — усёй усходнеславянскай паэзіі ад інтанацыйна-сказавай, рытміка-інтанацыйнай і «сілабічнай сістэмы вершаскладання, якая тады толькі зараджалася ў Беларусі, да сілаба-танічнай» [47].

У сваіх віленскіх выданнях, у прыватнасці ў «Малой падарожнай кніжцы», «Акафістах», Скарына выступіў у новай пісьменніцкай якасці — як вопытны гімнограф. Намаганні гуманіста ў гэтым плане ішлі па лініі перакладу ўзораў візантыйскай, грэчаскай, сярэдневяковай гімнаграфічнай спадчыны і стварэння нацыянальнай. Аб гэтым і сведчаць акравершы ў акафісце Іаану Хрысціцелю («Писал доктор Скоринич Францискус»), акафісце імю Ісуса Хрыста («Делал доктор Скоринич Францискус») [48]. У гэтай сувязі цікавай з'яўляецца адна характэрная дэталь.

Пасля канона «пречистой богородици» Скарына зазначыў, што канон — «молитва велми набожная», што ён ёсць «творение Іосифова», «выложенное из гречаского на руски язык доктором Франциском с Полоцька», г. зн. ім перакладзенае. Пра акафіст імю Ісуса Хрыста Скарына паведамляе, што гэта «творение Феоктиста», «інока Студийское обители», і адзначае ў акравершы, што ён яго «делал...», г. зн. пераклаў ці адрэдагаваў. Акравершам «Писал доктор Скоринич Францискус» ён аўтарытэтна заявіў аб сваім аўтарстве акафіста Іаану Хрысціцелю. Можна заўважыць, што акравершную форму ва ўсходнеславянскую літаратуру ўвялі ў XV ст. Грыгорый Цамблак і Пахомій Лагафет, дзеячы паўднёваславянскага паходжання, і, такім чынам, Скарына — першы айчынны пісьменнік, які выкарыстаў акраверш і ў гэтай галіне паэзіі працягваў еўрапейскія традыцыі.

Шматгранная прагрэсіўная дзейнасць Францыска Скарыны, нягледзячы на гістарычную абмежаванасць, абумоўленую сваім часам, увабрала ў сябе лепшыя агульнаеўрапейскія і славянскія культурныя дасягненні, склала цэлую эпоху ў станаўленні бела-

---

[47] Чемерицкий В. А. Скорина и становление белорусской литературы // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белорусии и Литве. С. 76.

[48] Турилов А. А. Гимнографическое наследие Франциска Скорины в рукописной традиции // Проблемы научного описания рукописей и факсимильного издания памятников письменности. Л., 1981. С. 241—247.

рускай і ўсіх усходнеславянскіх культур і шмат у чым прадвызначыла характар іх будучага развіцця. Яна адыграла выдатную ролю ва ўмацаванні сувязей паміж Усходам і Захадам, брацкімі славянскімі і іншымі народамі Еўропы, зрабіла значны ўплыў на абуджэнне і фарміраванне нацыянальнай свядомасці славянскіх народаў. Кнігамі Скарыны ўпершыню так магутна і адкрыта быў заяўлены ва ўсходнеславянскай літаратуры і культуры дэмакратычны зварот да ўсяго народа, а не да нейкага асобнага саслоўя ці касты. Іменна Скарына зрабіў прарыў у новую па свайму характару грамадска-літаратурную свядомасць сярод беларусаў і, прыўзняўшыся над сярэдневяковым, «кастовым» мысленнем, паклаў дабратворны пачатак дэмакратызацыі ўсходнеславянскіх нацыянальных культур. Багатыя скарынінскія традыцыі былі шырока падхоплены і развіты друкарамі, пісьменнікамі, вучонымі, культурнымі дзеячамі Усходняй і Заходняй Еўропы (М. Гусоўскі, М. Літвін, С. Будны, В. Цяпінскі, І. Фёдараў, П. Мсціславец, П. Трубер, браты Мамонічы, А. Волан, М. Чаховіц, Б. Будны, Л. Зізаній, М. Сматрыцкі, М. Мажвідас, Сімяон Полацкі і інш.). Кнігадрукарская дзейнасць Скарыны ўплывала і на ўзнікненне кнігадрукавання ў Расіі і на Украіне[49]. Кнігі беларускага гуманіста на працягу стагоддзяў карысталіся вялікай папулярнасцю і аўтарытэтам на славянскіх і іншых еўрапейскіх землях, служылі зброяй у барацьбе за нацыянальную культуру і мову. Яны беражліва захоўваліся, перадаваліся з пакалення ў пакаленне, пра што таксама сведчыць значная рукапісная традыцыя «Біблії рускай», і здзейснілі вялікую культурную місію ва Усходняй Еўропе.

Імя Францыска Скарыны, якое свята шануе прагрэсіўнае чалавецтва, стала сімвалам славянскай, агульначалавечай культуры.

* * *

Зборнік дакументаў і матэрыялаў падрыхтаваны ў адпаведнасці з планам рэспубліканскай комплекснай праграмы ў галіне грамадскіх навук «Францыск Скарына — вялікі беларускі асветнік-гуманіст, выдатны дзеяч славянскай культуры», распрацаванай у 1980 г. Камісіяй АН БССР па вывучэнню культурнагістарычнай спадчыны Ф. Скарыны да 500-годдзя з дня яго нараджэння. Патрэба ў такім выданні даўно наспела. З кожным годам узрастае цікавасць сусветнай грамадскасці да Скарыны. Таму падвядзенне грунтоўнай крыніцазнаўчай базы пад вывучэнне яго жыцця і дзейнасці (у першую чаргу гэтаму павінна служыць выданне дакументаў аб ім) з'яўляецца першачарговай задачай савецкага скарыназнаўства на сучасным этапе. Частка дакументаў пра Скарыну, яго родзічаў надрукавана ў дарэвалюцыйных, надзвычай рэдкіх сёння выданнях; некаторыя

[49] Иван Федоров и восточнославянское книгопечатание. Мн., 1984.

захоўваюцца ў рукапісах у замежных архівах, доступ да якіх навукоўцам, не кажучы ўжо пра шырокага чытача, вельмі ўскладнены. Недастаткова высокі ўзровень некаторых публікацый дакументаў, іх перакладаў і інтэрпрэтацыі нас сёння не можа задаволіць.

У каментарыях мы называем, як правіла, адкрывальніка дакумента, першавыданне і перавыданні, адзначаем навуковы ўзровень публікацый тэксту і ў некаторых выпадках — архіўнае месцазахаванне. Падрабязна не спыняючыся на адзначаных аспектах, закранём гісторыю адкрыцця скарынінскіх дакументаў у сувязі з праблемай іх засваення ў навуковай літаратуры, каб паказаць, як складвалася аб'ектыўная карціна гісторыі жыцця беларускага гуманіста. Прычым некаторыя з іх друкаваліся разам з іншымі матэрыяламі і не заўсёды ўсведамляліся эдытарамі як дакументы пра Скарыну.

Пачатак навуковай зацікаўленасці кнігамі і асобай Скарыны сягае ў XVI ст. (Амбражэй Тэзей Альбанеза, 1539 г.; П. Вергерый, 1559 г.; С. Будны, 1574, 1576 гг. і інш.). Аднак веды вучоных пра беларускага гуманіста з той старажытнай пары аж да сярэдзіны XIX ст., па сутнасці, не падмацоўваліся дакументальнымі сведчаннямі, а вычэрпваліся данымі яго кніг. Нават высвятленне заснавальнікам славянскай філалогіі Ё. Добраўскім таго факта, што Скарына распачаў сваю кнігадрукарскую дзейнасць у чэшскай Празе [50], а не польскай, было зроблена ў XVIII ст. не на пэўных дакументах, а на грунце зноў жа ўважлівага прачытання скарынінскага Пяцікніжжа з указаннем пра «славное старое место Празское» як пра месца выдання і суаднясення гэтага сведчання са звесткамі аб падваршаўскай Празе, якая ў часы Скарыны была маленькім, малавядомым пасяленнем.

Так было да 1849 г., калі Ю. Мучкоўскі апублікаваў у Кракаве тэксты прамацыйных актаў Кракаўскага універсітэта. Польскія вучоныя зразумелі, што актавы запіс 1506 г. пра наданне «Францыску з Полацка, літвіну» годнасці бакалаўра адносіцца іменна да Скарыны. У правільнасці такога вываду ніхто з даследчыкаў не сумняваўся, хіба апрача А. Ясінскага, які ў 1926 г. выказаў думку, што гэта толькі «прыпушчэнне» [51]. У тым жа зборніку «Чатырохсотлецце беларускага друку», дзе з'явіўся артыкул названага даследчыка, М. Піятуховіч прывёў у арыгінале і ў перакладзе на беларускую мову невялікі фрагмент запісу 1506 г. з кнігі Мучкоўскага. Аднак лацінскі выраз «ad Quatuor tempora sancte Lucie» ён пераклаў недакладна:

---

[50] Dobrovsky J. Literarische Nachricten von einer auf Veranlassung der Böhmischen Gesellschaff der Wissenschaften im Jahre 1792 unternommenen Reise nach Schweden und Russland. Prag, 1796. S. 101—108.

[51] Ясінскі А. З культурнае гісторыі Чэхіі пачатку XVI сталецця // Чатырохсотлецце беларускага друку. Мн., 1926. С. 40.

«а чацвёртай гадзіне ў дзень св. Люцыі»[52], што спарадзіла памылкі ў пазнейшых працах беларускіх скарыназнаўцаў.

Тыпова памылковы погляд выказан і В. В. Чапко: «Для таго каб быць прынятым ва універсітэт, у які доступ для асоб праваслаўнага веравызнання быў закрыт, Скарына назваўся літоўцам»[53]. Па-першае, у Кракаўскім універсітэце мелі магчымасць вучыцца і людзі праваслаўнага веравызнання, а па-другое, пад літвінамі падразумяваліся выхадцы з Вялікага княства Літоўскага. Часта недакладна датуецца гэты дакумент. У зборніку дакладаў, прысвечаным Скарыну, выдадзеным у Маскве ў 1979 г., называецца дата 10 кастрычніка, такая ж недакладная дата ўказана і Я. Л. Неміроўскім[54]. На самай справе дакумент павінен датавацца 14 снежня. У дакуменце ёсць такія словы: «У тым жа годзе (1506.— *В. Д.*), у час дэканства таго ж магістра Леанарда і інш., у бліжэйшы дзень пасля свята святой Люцыі, на які прыпадае сухаядзенне...» А свята святой Люцыі, як вядома, адзначалася 13 снежня[55]. Значыць, падзея адбывалася 14 снежня.

Неабгрунтаваную думку выказаў А. С. Падокшын, які лічыць, што Скарына выйшаў са сцен Кракаўскага універсітэта «з вучонай ступенню магістра свабодных мастацтваў», таму што ён вучыўся там два гады[56]. У дакуменце сказана выразна, што Скарына стаў тут у 1506 г. бакалаўрам, а не магістрам. Іншая справа, што доктар «вызваленых навук» Скарына, відаць, быў у свой час і магістрам. Але дзе ён мог атрымаць гэту вучоную ступень, дакладна пакуль невядома, магчыма, у Кракаве ці Празе ці ў адным з нямецкіх універсітэтаў. Неабходна ўлічваць і тое, што для атрымання доктарскага звання ў тагачасных заходнееўрапейскіх універсітэтах магістарства не было абавязковай умовай. Для гэтага перш за ўсё трэба было прайсці стадыі бакалаўра і ліцэнцыята (мець права вучыць і выкладаць)[57].

У 1892 г. А. Хмель надрукаваў матрыкуляцыйны запіс пра паступленне Скарыны ў Кракаўскі універсітэт у 1504 г. на факультэт свабодных навук. Сярод шкаляраў ён значыцца як «Францыск, сын Лукі з Полацка». Аднак скарыназнаўцам гэты запіс стаў вядомы раней. Напрыклад, П. У. Уладзіміраў пры напісанні манаграфіі пра Скарыну (1888) карыстаўся тэкстам гэтага запісу, выпісаным С. Л. Пташыцкім з універсітэцкага рукапісу. Гісторык польскай літаратуры М. Вішнеўскі слушна адзначыў у 1851 г., што Скарына вучыўся ў Кракаўскім універ-

---

[52] Піятуховіч М. Францішак Скарына і яго літаратурная дзейнасць // Чатырохсотлеццe беларускага друку. С. 164.

[53] Чапко В. В. Беларускі першадрукар Георгій Скарына. Мн., 1956. С. 10.

[54] Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. С. 10; Немировский Е. Л. Иван Федоров. М., 1985. С. 44.

[55] Chronologia Polska. Warszawa, 1957. S. 245, 253.

[56] Подокшин С. А. Франциск Скорина. М., 1981. С. 68.

[57] Суворов Н. Средневековые университеты. М., 1898. С. 164.

сітэце, але памылкова, без указання на гістарычныя крыніцы сцвярджаў, што ступень доктара медыцыны і свабодных навук ён атрымаў у гэтай жа ўстанове [58]. Пазней У. І. Пічэта таксама недакладна адзначаў, што «вышэйшую адукацыю Скарына атрымаў на багаслоўскім факультэце Кракаўскага універсітэта» [59].

Важныя архіўна-дакументальныя сведчанні аб тым, што ён атрымаў вышэйшую адукацыю ў Кракаве, канчаткова пацвердзіліся, калі ў 1882 г. у Пецярбургу Г. Ф. Карпаў апублікаваў копію інструкцыі, граматы і спісу скаргаў вялікага князя маскоўскага Івана Васільевіча ад 18 мая 1492 г., у якой прыгадваецца полацкі купец Лукіян Скарына, бацька Скарыны (гэта выданне было невядомае П. У. Уладзіміраву), і калі былі адкрыты ў 1892 г. падуанскія дакументы, у якіх таксама называецца тое ж імя бацькі гуманіста.

У 1858 г. пад рэдакцыяй вучонага сакратара Віленскай археалагічнай камісіі М. Круповіча былі надрукаваны ў Вільні копіі дзвюх прывілейных кракаўскіх грамат караля і вялікага князя Жыгімонта І, выдадзеных на лацінскай мове Скарыну 21 і 25 лістапада 1532 г. Імі Скарына вызваляўся ад праследавання крэдытораў за даўгі брата Івана, а таксама з-пад звычайнай судовай юрысдыкцыі і браўся пад каралеўскую апеку і ахову. Гістарычна дакладнае асэнсаванне значэння гэтых грамат для Скарыны, прычын іх з'яўлення ў сувязі з яго пазнанскай эпапеяй стала магчымым толькі ў XX ст., пасля адкрыцця М. Вайцяхоўскай у 1926 г. архіўных матэрыялаў у Познані.

Трэба адзначыць, што няўважлівае прачытанне гэтых грамат дало падставы П. У. Уладзіміраву памылкова гаварыць аб канфіскацыі маёмасці Скарыны, што нібыта ў сваю чаргу паслужыла адной з галоўных прычын спынення яго друкарскай дзейнасці ў Вільні [60]. Гэта неабгрунтаваная думка «вандруе» па скарыназнаўчых працах з XIX па XX ст. Але Скарына, як вынікае са зместу грамат, быў узяты Жыгімонтам І пад асабістую ахову і апеку, і таму, зразумела, ніякай канчатковай канфіскацыі маёмасці першадрукара быць не магло. Аб канфіскацыі яго маёмасці нічога не гаворыцца і ў «Каралеўскім указе пра вызваленне, прад'яўленым доктарам Скарынам» [61]. Некаторыя даследчыкі абміналі ўвагай выданне Круповіча, як, напрыклад, У. І. Пічэта ў сваёй «Scoriniane» [62], іншыя з празмерным даверам адносяцца да яго. Справа ў тым, што Круповіч дапусціў некаторыя тэксталагічныя памылкі і недакладна датаваў граматы 1532 г.: «5 января» і «21 ноября». Адсюль і шматлікія пазней-

---

[58] Wiszniewski M. Historija literatury polskiej. Kraków, 1851. T. 8. S. 466.
[59] Пічэта У. Беларускае Адраджэнне ў XVI сталецці // Чатырохсотлецце беларускага друку. С. 140.
[60] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина. С. 67.
[61] Гл. дадзены зборнік. С. 145.
[62] Пічэта У. Scoriniana // Чатырохсотлецце беларускага друку. С. 284—327.

шыя недакладнасці, якія паўтараюцца дасюль. Напрыклад, у адной сучаснай працы гаворыцца: «Толькі ў адзіным дакуменце — прывілеі ад 21 лістапада 1532 г.— першадрукар названы «Георгіем Францыскам» [63]. Аднак так ён названы не ў прывілеі (арыгінал яго пакуль не адшуканы), а ў копіі і не ад 21, а ад 25 лістапада 1532 г.

У 1862 г. Е. Фідлер надрукаваў у Вене копію інструкцыі Жыгімонта Аўгуста 1552 г. свайму пасланцу пры папе, у якой упамінаюцца кнігі Бібліі «на рускай мове», прывезеныя выдаўцом у Маскву і спаленыя па загаду вялікага маскоўскага князя. Упершыню гэтыя падзеі з асобай Скарыны і яго выданнямі слушна звязваў у 1888 г. І. І. Первольф [64], а значна пазней А. В. Флароўскі [65] і інш. Сёння задача скарыназнаўцаў заключаецца ў тым, каб высветліць сапраўдную мэту, час і перыпетыі паездкі Скарыны ў Маскву — гістарычнага факта, надзвычай важнага для разумення ўсёй культурна-асветніцкай дзейнасці і светапогляду беларускага гуманіста. М. А. Алексютовіч абмяжоўвае яе храналагічнымі рамкамі пасля 1527 г. і не пазней 1535 г.[66], аднак хутчэй за ўсё гэта паездка адбылася не пазней 1533 г.: у гэты год памёр маскоўскі князь Васіль, па загаду якога спальваліся скарынінскія кнігі.

У 1880 г. І. Шуйскі апублікаваў рэвізію Полацкага ваяводства ад 1552 г. паводле спісу бібліятэкі графаў Браніцкіх, дзе ёсць сведчанні аб маёмасці Скарынаў і зяця Івана Скарыны Ескі Сцяпанавіча. У 1905 г. І. І. Лапо ажыццявіў публікацыю гэтай жа рэвізіі паводле спісу ваенна-вучонага архіва Галоўнага Штаба.

У 1888 г. П. У. Уладзіміравым былі надрукаваны ў «Дадатку» да манаграфіі пра Скарыну судовы дэкрэт ад 1529 г., паводле якога дом у Вільні і іншая маёмасць, што дасталіся Маргарыце ад першага мужа Юрыя Адверніка, прысуджаліся сям'і Скарыны, і два акты ад 18 чэрвеня і 4 кастрычніка 1535 г. судовых спрэчак паміж зяцямі Івана Скарыны Міхнай Аўсяннікам і Ескам Сцяпанавічам, са зместу якіх вынікала, што ў Полацку была маёмасць Францыска Скарыны. Апошнія два акты друкаваліся і ў 2-м томе «Беларускага архіва» ў 1928 г. Некаторыя даследчыкі не зусім правільна разумеюць сэнс судовага працэсу 1529 г. Напрыклад, С. А. Падокшын піша, што Скарына «пачаў судовы працэс з родзічамі сваёй жонкі Маргарыты» [67]. Аднак гэты працэс пачаў не Скарына, і не закончыўся ён, відаць,

---

[63] Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. С. 9.

[64] Первольф И. И. Славяне, их взаимные отношения и связи. Варшава, 1888. Т. 2. С. 596—597.

[65] Флоровский А. В. Франциск Скорина и Москва //ТОДЛ ИРЛИ. 1969. Т. 24. С. 155—158.

[66] Алексютович М. А. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд. С. 50.

[67] Подокшин С. А. Франциск Скорина. М., 1981. С. 75.

нават пасля станоўчага вырашэння справы ў карысць Маргарыты і Францыска ў 1529 г.

У 1892 г. С. Віндакевіч выявіў, а І. Шляпкін апублікаваў вельмі каштоўныя лацінскія акты Падуанскага універсітэта пра наданне Скарыну ў 1512 г. годнасці доктара медыцынскіх навук. У сувязі з гэтым выказваліся самыя розныя, супярэчлівыя і неабгрунтаваныя думкі. Цікава, што П. У. Уладзіміраў не ведаў публікацыі Шляпкіна і ў энцыклапедычным артыкуле пра Скарыну памылкова даводзіў, што гуманіст «працягваў адукацыю ў Балонні» [68]. А. Анушкін, напрыклад, сцвярджаў, што экзамены ў Падуі адбыліся 6 і 9 кастрычніка 1512 г.[69], хоць яны былі ў лістападзе. У. М. Свяжынскі беспадстаўна падкрэслівае, што Скарына паступіў у Падуанскі універсітэт і скончыў яго [70]. Дарэчы, у невялічкай брашуры Свяжынскага, адрасаванай школьнікам, вельмі шмат фактычных недакладнасцей [71]. М. Б. Батвіннік, не знаёмячыся з першакрыніцамі, пісаў у 1979 г., што «пераклад дакументаў архіва Падуанскага універсітэта быў... ажыццёўлен І. А. Шляпкіным», а «ўдакладнены пераклад лацінскага арыгінала дыплома Ф. Скарыны, дакументаў аб папярэднім выпрабаванні і асобым экзамене па медыцыне ... зрабіў Я. І. Парэцкі» [72]. У сапраўднасці ж Шляпкін не перакладаў падуанскія дакументы, а толькі падаў лацінскія тэксты, і, такім чынам, Парэцкі не рабіў «удакладнены», а свой пераклад. Лацінскі ж арыгінал дыплома Скарыны невядомы даследчыкам, і таму яго ніхто не перакладаў.

Паводле Л. Баразны, Скарына вучыўся выяўленчаму мастацтву, таму што, прыйшоўшы ў Падуанскі універсітэт «трымаць экзамены на доктара медыцыны», ён меў вучоную ступень «доктара мастацтваў»[73]. Аднак для таго часу гэта нічога агульнага не мела з выяўленчым мастацтвам.

Нягледзячы на некаторыя недахопы, публікацыя Шляпкіна раскрывала надзвычай важны біяграфічны факт у жыцці Скарыны і дакументальна засведчыла яго сувязь і духоўную еднасць з навукай і культурай італьянскага Рэнесанса.

У 1912 г. Т. Вяржбоўскі занатаваў факт існавання лацінскага дэкрэта Жыгімонта І ад 1518 г., на аснове якога брат Скарыны Іван і некалькі купцоў вызваляліся ад грашовых прэтэнзій Андрэя з Львова, але недакладна інтэрпрэтаваў змест дакумента (пісаў аб справе заключэння ў турму купцоў—«ratione deten-

---

[68] Энциклопедический словарь. СПб., 1900. Т. XXX. С. 228.
[69] Анушкин А. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970. С. 22.
[70] Свяжынскі У. М. Слова Скарыны. Мн., 1984. С. 10, 12.
[71] Дарашкевіч В. І. Больш павагі да факта // История книги, книжного дела и библиографии в Белоруссии. Мн., 1986. С. 181—187.
[72] Ботвинник М. Б. Изучение жизни и деятельности Скорины в БССР // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. С. 132.
[73] Гравюра Францыска Скарыны. Мн., 1972. С. 10.

tionis in carcere»). У дадзеным зборніку дэкрэт ад 1518 г. друкуецца і перакладаецца ўпершыню.

У 1918 г. А. Мілавідаў надрукаваў копіі чатырох дакументаў на лацінскай мове, звязаных са знаходжаннем Скарыны пры двары прускага герцага Альбрэхта ў Кёнігсбергу вясной 1530 г. Так была ўпісана новая яркая старонка ў жыццяпіс Скарыны. К. Фарстрэйтар у 1938 г. указаў, што ў публікацыі Мілавідава прапушчана «et»[74] (у рукапісу «ас») і, такім чынам, лекар-яўрэй і друкар не адна асоба, а дзве; з імі выехаў беларускі гуманіст назад у Вільню. Даследчык памылкова лічыў, што са Скарынам выехаў друкар Г. Вайнрайх[75], таму што яго друкарня дзейнічала ў Кёнігсбергу безупынна на працягу 1524—1553 гг. Былі спробы звязаць асобу друкара і з імем аднаго «з братоў Галічаў (Галіцараў), падарожных друкароў, якія ў 1533 г. у Кракаве выдалі першую ў Польшчы яўрэйскую друкаваную кнігу». Версія гэта, высунутая М. Гембаровічам, падрабязна разгледжана і адхілена Я. Д. Ісаевічам[76]. Дарэчы, Гембаровіч спрабаваў атаясамліваць урача, які ўцёк са Скарынам, з крамянецкім рабінам доктарам Аўраамам. Мілавідаў няправільна пераказаў сэнс першага дакумента ад 16 мая 1530 г., у якім Альбрэхт не просіць ваяводу Гаштольда адпусціць да яго Скарыну, а толькі канстатуе факт пераезду Скарыны ў Кёнігсберг, паведамляе аб яго ад'ездзе ў Вільню ў сувязі з «неадкладнымі абставінамі, [што] да ягоных асабістых спраў і маёмасці», і просіць заступіцца за яго. Такім чынам, са зместу дакументаў не вынікае, што Скарына ездзіў у Прусію па запрашэнню герцага Альбрэхта. Гэта недакладнае сцвярджэнне Мілавідава паўтараецца ў навуковых працах і энцыклапедычных даведніках[77]. Высвятленне сапраўдных прычын прыезду Скарыны ў Кёнігсберг патрабуе дакументальнага пацвярджэння, хоць гіпотэз, меркаванняў, версій на гэты конт выказана шмат. Недакладна быў перададзены Мілавідавым і сэнс другога дакумента: як пашпарт для бесперашкоднага праезду ў Кёнігсберг, а фактычна — гэта падарожная грамата на праезд Скарыны з Кёнігсберга ў Вільню.

Адкрыццё М. Вайцяхоўскай у архівах г. Познані вялікай колькасці актаў, якія датычыліся брата Івана і самога Францыска, значна пашырыла ўяўленні пра жыццё Скарыны ў 1529—1532 гг. Змест гэтых актаў даследчыца пераказала ў 1926 г.[78]

---

[74] Forstreuter K. Preussen und Russland im Mittelalter. Die Entwicklung ihrer Beziehungen von 13 bis 17 Jahrhundert. Königsberg—Berlin, 1938. S. 222.

[75] Forstreuter K. Preussen und Russland von den Anfängen des Deutschen Ordens bis zu Peter dem Grossen. Berlin — Frankfurt, 1955. S. 216—217.

[76] Исаевич Я. Д. Наследие Скорины на Украине // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. С. 172; Яго ж: Першодрукар Іван Федоров і виникнення друкарства на Україні. Львів, 1983. С. 24—25.

[77] Пічэта У. Scoriniana // Чатырохсотлецце беларускага друку. С. 313; БелСЭ. Мн., 1973. Т. 9. С. 548.

[78] Гл. дадзены зборнік. С. 327.

Значэнне пазнанскіх матэрыялаў у тым, што яны праліваюць святло на эканамічна- і камерцыйна-фінансавае становішча, асяроддзе і акружэнне Івана і Францыска, тую складаную ідэалагічную барацьбу, якая вялася ўжо ў XVI ст. вакол Скарыны, развіцця беларускай культуры. Скарына не выпадкова быў пасаджаны ў пазнанскую турму. За гэтым актам глумлення над гуманістам стаялі ўплывовыя сілы, якія былі варожа настроены да культурнай дзейнасці Скарыны. У гэтым святле набываюць новы сэнс і ахоўныя каралеўскія граматы ад 21 і 25 лістапада 1532 г.

Некаторым даследчыкам з пераказу М. Вайцяхоўскай пазнанскіх актаў падалося, што захавалася перапіска братоў. Напрыклад, А. В. Флароўскі пісаў: «З перапіскі братоў можна зрабіць вывад, што Іван быў у даўгу ў Францыска, а гэта значыць Францыск нейкім чынам прымаў удзел у гандлёвых аперацыях брата» [79]. Такі вывад, аднак, вынікае не з перапіскі братоў, якая, бясспрэчна, існавала, але да сённяшняга дня не адшукана, і польская даследчыца пра яе не ўпаміналa, а са зместу актавых запісаў у кнігу Познані пра даўгі Івана (гл. дадзены зборнік, с. 111, 117, дак. № 3, 5, 6). У нашым зборніку пазнанскія актавыя матэрыялы ўпершыню падаюцца ў арыгінале і перакладзе. Сярод копій матэрыялаў судовай справы, атрыманай у 1984 г. Інстытутам літаратуры імя Я. Купалы АН БССР з Познані, былі таксама выяўлены дакументы, пра якія М. Вайцяхоўская не пісала (гл. раздзел «Пазнанская справа», дакументы № 2, 3, 5, 7, 8, 9, 13, 15). Знойдзеныя дакументы дазваляюць удакладніць сцвярджэнні польскай даследчыцы, якая пісала, што Скарына прасядзеў у турме каля 10 тыдняў, а на самай справе — больш за 17 тыдняў.

Значны ўклад у стварэнне навуковай біяграфіі Скарыны ўнёс А. В. Флароўскі. У верасні 1934 г. у Варшаве на II Міжнародным з'ездзе славістаў ён паведаміў аб дакументальна пацверджаных фактах паўторнага знаходжання Скарыны ў Празе ў другой палавіне 1530-х гадоў, аб яго працы на пасадзе садоўніка ў караля Фердынанда I. А. В. Флароўскі апублікаваў у 1936 г. выпраўлены ім тэкст ліста Фердынанда I, дадзенага сыну Скарыны Сімяону на права адшукання і валодання спадчынай бацькі. Гэты ліст быў надрукаваны Ф. Дворскім у 1885 г., але з недакладна прачытаным прозвішчам Скарыны. Вучоны выкарыстаў і малавядомыя гістарычныя крыніцы: паведамленні храніста Гаека аб пажары ў Празе 2 чэрвеня 1541 г., калі згарэў «хлопчык Францішак, сын колішняга доктара Руса», паведамленне храніста Бжэзана пра «Сімяона па прозвішчы Рус з Полацка», лісты Багемскай каморы да Фердынанда I, надрукаваныя К. Кёплем у 1889 г. у Вене, і некаторыя іншыя матэрыялы—

[79] Флароўскі А. В. Scoriniana // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968. С. 396—397.

і звязаў іх са Скарынам. На падставе сваіх знаходак ён выказаў меркаванне, што «другі эпізод жыцця Скарыны ў Празе» можна «абмежаваць рамкамі 1534 і 1541 гг.» і «дату смерці Скарыны адсунуць на час перад 1541 г.» У 1968 г. А. В. Фляроўскі рабіў агаворку: «Выказваючы гэтыя меркаванні, я не быў схільны і не схільны зараз настойваць на іх у гэтай апошняй частцы, аднак нельга ўсё ж не ўлічваць і гэту акалічнасць» [80]. Тое, што для Фляроўскага было яшчэ гіпотэзай, меркаваннем, здагадкай, многія даследчыкі і папулярызатары Скарыны прынялі як дакладна абгрунтаваны факт і вызначылі дату смерці гуманіста 1540 ці 1541 г.[81] Аднак трэба падкрэсліць, што пытанне пра час смерці і нараджэння Скарыны застаецца пакуль што канчаткова не высветленым.

У 1960 г. Я. Садоўскі адшукаў новы пратакольны запіс пра экзамен Скарыны на атрыманне ступені доктара медыцыны, у якім ён называецца «сакратаром караля Дацыі», хутчэй за ўсё Даніі. У сувязі з гэтым былі спробы звязаць дзейнасць Скарыны як з Даніяй, так і з румына-малдаўскімі землямі [82].

У 1974 г. Г. Я. Галенчанка паведаміў аб сваёй знаходцы акта Літоўскай метрыкі за 1526 г., паводле якога Скарына выступаў у якасці сведкі пры падпісанні фундуша, дадзенага слуцкім князем Георгіем Сямёнавічам віленскаму біскупу Яну на заснаванне парафіі, касцёла і школы ў мястэчку Вясейі Гродзенскага павета. У зборніку фрагменты акта падаюцца і перакладаюцца ўпершыню.

У 1984 г. з Польшчы былі атрыманы невядомыя скарынінскія дакументы, якія захоўваюцца ў Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве: дзве копіі судовых дэкрэтаў караля Жыгімонта Аўгуста ад 17 жніўня і 15 снежня 1552 г., дадзеных у Гданску і Вільні, адносна апеляцыі па справе Анковіча (Ганковіча?) і Тоўсціка з-за «дабра нябожчыка доктара Францыска Скарыны». У зборніку гэтыя дэкрэты публікуюцца ўпершыню. Яны паказваюць, што з-за маёмасці нябожчыка Ф. Скарыны ішла зацятая барацьба. У копіі дэкрэта пад назвай «Ганковіч, Тоўсцік», дадзенага ў Гданску 17 жніўня 1552 г., маёмасць Скарыны ацэнена «на сто пяцьдзесят коп у літоўскай манеце».

Каштоўнасць знойдзеных каралеўскіх дэкрэтаў 1552 г. у тым, што яны разам з граматай чэшскага караля Фердынанда I ад 29 студзеня 1552 г. праліваюць дадатковае святло на час смерці Скарыны. Не выпадкова, што ў трох гістарычных дакументах 1552 г. гаворка ідзе пра Скарыну як нябожчыка і пра

---

[80] Фляроўскі А. В. Scoriniana // 450 год беларускага кнігадрукавання. С. 402—403.

[81] Алексютовіч М. А. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд. С. 59; БСЭ. М., 1976. Т. 23. С. 518; Майхровіч С. Георгій Скарына. Мн., 1966. С. 85; Парэцкі Я. І. Сымон Будны. Мн., 1975. С. 167; Клышка А. Францыск Скарына, альбо як да нас прыйшла кніга. Мн., 1983. С. 120.

[82] Фляроўскі А. В. Scoriniana //450 год беларускага кнігадрукавання. С. 428—431.

юрыдычныя клопаты асоб, зацікаўленых у атрыманні часткі спадчыны Скарыны. Яны пачалі клапаціцца пра гэта неўзабаве пасля яго смерці. Таму, на наш погляд, ёсць падстава сцвярджаць, што Скарына памёр у канцы 1551 г. ці ў студзені 1552 г.

Такім чынам, гісторыя адкрыцця дакументаў пра Скарыну налічвае амаль паўтара стагоддзя. Вучонымі розных краін няммала было зроблена па ўвядзенню іх у навуковы ўжытак. Напластаванні фактычных памылак у скарыназнаўчых працах абумоўлены перш за ўсё тым, што некаторыя даследчыкі рабілі вывады без непасрэднага знаёмства з дакументамі і ішлі не ад першакрыніцы, а ад інтэрпрэтацый папярэднікаў. Яркім прыкладам гэтага з'яўляецца вывад В. В. Чапко: «З дакумента 1541 г. аб увядзенні ў правы на спадчыну яго сына відаць, што Скарыны ўжо не было ў жывых. Значыць, памёр ён прыблізна паміж 1536—1540 гг.»[83] Аднак адзначаны дакумент датуецца 29 студзеня 1552 г.

Крыніцазнаўчы аналіз фактаў, што датычаць жыццяпісу Скарыны, яскрава даказвае, наколькі сёння наспела патрэба ў асобным навукова-каменціраваным выданні дакументаў і матэрыялаў пра беларускага гуманіста.

У зборнік уключаны дакументы пра жыццё і дзейнасць Скарыны, яго родзічаў і матэрыялы, праблематычна звязаныя з яго імем. Большасць дакументаў і матэрыялаў здабыта з рэдкіх і унікальных выданняў, частка — з айчынных і замежных архіваў. Структура зборніка абумоўлена характарам і зместам пададзеных матэрыялаў, імкненнем на гістарычна-дакументальных фактах паказаць асноўныя этапы жыццёвага шляху Скарыны, даць неабходныя звесткі аб яго кнігах. Прыведзеныя дакументы, іх пераклады і іншыя матэрыялы, сабраныя ў адной кніжцы і размешчаныя ў пэўным тэматычным і храналагічным парадку, даюць цэласнае і больш шырокае і багатае ўяўленне пра жыццё і дзейнасць выдатнага беларускага першадрукара, яго асяроддзе і сувязі. Але даводзіцца канстатаваць, што многія старонкі ў біяграфіі Скарыны яшчэ застаюцца не раскрытымі. Дакументальна не поўнасцю высветлены яго знаходжанне ў Кракаве, Капенгагене, Падуі, Празе, Вільні, Вітэнбергу, Познані, Маскве, арганізацыя друкарань, дзелавыя і асабістыя сувязі, род Скарынаў — тое, што складала шматгранны і непаўторны свет жыцця вялікага дзеяча славянскай культуры, чалавека і грамадзяніна. Яго дзейнасць мела еўрапейскі характар і значэнне. Неабходны далейшыя настойлівыя пошукі даследчыкаў у розных архівах СССР, Польшчы, Чэхаславакіі, Румыніі, Малдавіі, Даніі, Ватыкана і інш.

У раздзеле «Выданні Францыска Скарыны», падрыхтаваным па просьбе Інстытута літаратуры імя Я. Купалы доктарам гістарычных навук Я. Л. Неміроўскім, змешчаны апісанне выданняў

---

[83] Чапко В. В. Беларускі першадрукар Георгій Скарына. С. 15.

гуманіста і каталог захаваных экземпляраў. Гэта апісанне скарынінскіх кніг найбольш шырокае на сённяшні дзень, але яшчэ не поўнае. Таму ў галіне скарыназнаўства і славянскага кнігазнаўства наперадзе нямала работы.

Пры падрыхтоўцы да друку дакументаў была праведзена зверка з архіўнымі першакрыніцамі (дзе была магчымасць), адпаведная, прынятая ў сучаснай археаграфіі адаптацыя кірылічных і лацінскіх тэкстаў.

У кірылічных тэкстах злітныя словы падаюцца асобна, скарачэнні пад цітламі, прапушчаныя літары і склады раскрываюцца ў квадратных дужках [ ]; літары «ѣ», «і» захоўваюцца; «ъ» у канцы слоў апускаецца; замяняюцца Ѵ (іжыца) на «и» або «в»; ѯ (ксі) — на «кс»; ѱ (псі) — на «пс»; θ (фіта) — на «ф»; ѥ — на «е»; ω (амега) — на «о»; ѧ (юс малы), ѩ — на «я»; ѫ (юс вялікі), оу, ук, ȣ — на «у»; «и» пры неабходнасці — на «й».

Большасць лацінскіх тэкстаў дакументаў пра Скарыну напісана познім гатычным канцылярскім курсівам. Характэрная рыса — вялікая колькасць скарачэнняў, суспенсій, кантракцый, вынасных знакаў. Сустракаюцца маргінальныя надпісы, месцамі тэкст закрэслены. Пры перадачы тэкстаў скарачэнні (звычайныя і пад вынаснымі знакамі) раскрываюцца ў квадратных дужках[84], не расчытаныя поўнасцю ці часткова месцы ўзяты ў дужкі ( ) ці падаюцца пад пытальнікам або шматкроп'ем. Замяняюцца літары: «S» на «s», «j» у канцы слоў на «і», літара «u», якая чытаецца як «u» і «v», захоўваецца.

У старапольскіх і чэшскіх тэкстах літара «S» заменена на «s», лігатура «β» перадаецца як «sz» і «s».

Тэксты падаюцца ў арыгінале з захаваннем яго моўных асаблівасцей і ў перакладзе на беларускую і рускую мовы, старабеларускія і рускія тэксты — толькі на мове арыгінала. Знакі прыпынку і напісанне вялікіх літар прыведзены ў адпаведнасць з сучасным сінтаксісам і правапісам. У перакладах, калі існуе неабходнасць, даюцца тлумачальныя словы ў квадратных дужках. Скарачэнні тэкстаў, зробленыя ўкладальнікам, падаюцца ў касяках /.../.

Абазначэнні гадоў літарамі захоўваюцца, якія ў квадратных дужках раскрываюцца арабскімі эквівалентамі. У некаторых дакументах даты вызначаюцца паводле ўказанняў на царкоўныя святы. Такія тэксталагічныя прынцыпы ў асноўным вытрыманы і ў апісанні скарынінскіх выданняў.

*Віктар Дарашкевіч*

---

[84] Люблинская А. Д. Латинская палеография. М., 1969. С. 43.

Рудъ прабаба царѧ Двдва побираѥ класы зажнци :~



ПОЧИНАЕТЪСЯ КНИГА РУѲЕ ЕЖЕ БЫЛА БАБА ІОСЕОВА ѾЦА ЦАРЯ ДАВЫДОВА • ЗНЕЯЖЕ ИЗЫДОША ВСИ ЦАРИ ІЮДИНЫ • ЗОПОЛНЕ ВЫЛОЖЕНА ДОКТОРОМЪ ФРАНЪЦИСКОМЪ СКОРИНОЮ ИЗЪСЛАВНАГО ГРАДА ПОЛОЦЬКА :~

## 1

## З КОПІІ ІНСТРУКЦЫІ, ГРАМАТЫ І СПІСУ СКАРГАЎ АД 18 МАЯ 1492 г.[1], ДАДЗЕНЫХ ВЯЛІКІМ МАСКОЎСКІМ КНЯЗЕМ ІВАНАМ III ВАСІЛЬЕВІЧАМ[2] СВАЙМУ ПАСЛУ ІВАНУ БЕКЛЕМІШАВУ[3] 15 МАЯ Ў МАСКВЕ, ЯКІ НАКІРОЎВАЎСЯ ДА ПОЛЬСКАГА КАРАЛЯ І ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА КАЗІМІРА[4]

/.../ А се жалобы великог[о] князя людем Новогородскіе земли на королевых людей. Наѣхав на Луцкую волость, на Хрянской стан, на Селивана на Влас[ь]ева, да на Зенка на Ил[ь]ина, да Ивана на Жукова, да на Михаила на Оксентіева пана Яновы люди, Яман да Посывня да Станко Волосатой да Голяш с товарищи, д[е]ревни выграбили, шестьнатцать[5] голов свели, а восмь ч[е]л[ове]к повѣсили а грабежу взяли на двѣсте рублев на рижскую. Да тот же Посывня с товарищи пограбил лучан, Степанка Сметанина да Якуша Попа Иванова с[ы]на, а взяли грабежу на пя[т]натца[ть] рублев на рижску[ю]. Да Ортемко лучанин ѣхал ис Полотьску: ино его ограбил[6] Данило Богъданов ч[е]л[ове]к, а взял грабежу на пя[ть] рублев на рижскую. Да Глѣб Остаф[ь]ев, наѣхав Хрянской стан, да убил до смерти лучшего ч[е]л[ове]ка Олексѣя Родишина, самого четверта, а дом ег[о] пограбил, а грабежу взял на тры[т]ца[ть] рублев на рижскую. Да Федко Мартынов сын, лучанин, ѣхал изо Пскова: ино его пограбил остреянин Фалко Гудков с товарищи, а грабежу взяли на два рубля. Да того ж Федка ограбили Б[о]гъдановы люд[и] Остаф[ь]ева, а взяли два мерина, а цена им два рубля рижскіе. Да Онисимка лучанина пограбили остреяне Б[о]гъданко Есков, с[ы]н Бордовског[о], да Еремка Глухой, а взяли грабежу на пя[ть] рублев на р[иж]скую. Да Глѣбовы люди Бутянко Еремѣев с[ы]н с товарищи ограбили[7] на дорозе лучанина Ока[т]ка Иванова, а взяли грабежу на полшеста рубля ризских. Да бежали шесть голов Сенкиных людей Носковых лучаниновых в Пуповичи, а взяли у нег[о] мерин в рубль в рижской и в три[т]цать грошей; и Сенка тѣх своих людей наѣхал у Глѣбова Остаф[ь]ева ч[е]л[ове]ка у проселка, и бил челом Глѣбу, чтобы ему его людей велѣл выдати, и он их ему не выдал, а свел

их в Лит[ву] за Поло[т]ско, а мерин его себѣ взял. Да в Поло[т]-ску [8] пограбили лучанина [9] Дороню Иванова купци полотцкіе Лукіан Скорина [10] да Прокофьев, а взяли грабеж[у] на сорок рублев [11] на рижскую и на два рубля. /.../.

*Падрыхтоўка старарус. тэксту*
*В. І. Дарашкевіча*

## 2

### ДЭКРЭТ КАРАЛЯ І ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ ЖЫГІМОНТА І, ДАДЗЕНЫ Ў СНЕЖНІ 1518 Г. У БЯРЭСЦІ [1]

DECRETUM PRO DASCHKONE ALIISQ[UE] CIUIBUS WILNEN[SIBUS], OCCASIONE DETENCIONIS ANDREAE DE LEOPOLI

Sigismundus e[t] c[etera]. Significamus e[t] c[etera], quia licet, Andreas de Leopoli ad nos citauerat pro feria tercia, proxima post festum Sancti Nicolai, proxime p[re]teritum, famatos Michaelem Mathwyeyewycz Czyschone[m], Smolnyanyn, Ioanne[m] Skorynycz, Poloczanyn, et Seucone[m] Andriywycz, ciues n[ost]ros Wylnen[ses] ad perhibendu[m] testimoniu[m] ueritati in causa contra famatu[m] Daschkone[m], ciuem etia[m] Wylnen[sem], per eundem Andrea[m] mota, pro detencione sua, que fuit Wilne facta. Quia tame[n] dictus Andreas, testibus predictis cora[m] nobis in prefato illis prefinito comparentibus, ip[s]e no[n] comparuit nec comparere curauit, ideo nos eosdem ciues Wylnen[ses] ab hui[usm]o[d]i termino perhibendi testimonii contra dictum Daschkone[m], que[m] alioquin captionis et detencionis eiusdem Andreae de Leopoli minime esse obnoxiu[m] reperimus et per alias l[itte]ras n[ost]ras declaraui[mus], absoluendos esse duximus, et perpetuo absolui[mus], et pro absolut[is] haberi uolumus, quod ad uniuersor[um] et singulor[um] dignitarior[um] et officialium, ac proconsulu[m] et consulum ciuitatu[m], et oppidor[um] et quor[um]uis locor[um] p[re]fector[um], et iudicum ceteror[um]q[ue] subditor[um] n[ost]ror[um] in Regno et dominiis n[ost]ris, ubilibet ex[iste]ncium noticia[m] deducimus et deduci uolumus p[rese]ntibus. Mandan[tes], ut prenominatos et alios quoscu[m]q[ue] ciues Wylnen[ses] ex causa p[re]missa ad iudicium u[est]r[u]m trahi aut arestari no[n] faciat[is] nec permittat[is], sed dictum Andrea[m] et actione[m] eius, si qua[m] alia[m] preter illia[m] pro dete[n]cione sua contra p[re]fatos ciues Wylnen[ses] haberit, a qua p[ro]inde atq[ue] ip[s]e Daschko im[m]unes existunt, ad nos, qui sufficientes sumus unicuiq[ue] conquerenti iusticia[m] debitam ministrare, pro illa reportanda remittat[is] et nichil ad instancia[m] dicti Andree contra eosdem ciues Wylnen[ses] attentet[is], sic et no[n] aliter factur[i] pro gratia n[ost]ra (. . .) quibus e[t] c[etera] . . . Ad mandat[um] e[t] c[etera] . . .

кіх дакументах часта называецца частка замкавай сцяны, пралёт маста (гл.: Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Мн., 1986. Вып. 7. С. 89).

Паводле падлікаў І. Шуйскага, полацкі замак меў 204 гародні.

[5] *Ігумен* — назва кіруючай асобы ў манастыры. Абавязкі яе тыя ж, што і ў настаяцеля манастыра.

[6] *Поз[е]ма, позем, позим, поземе* — старабел., від падатку, плата за карыстанне зямлёю (картатэка Гістарычнага слоўніка беларускай мовы Інстытута мовазнаўства АН БССР).

[7] *Магдэбургскае (майдыборскае, майтборскае) права* — феадальнае гарадское права, якое рэгулявала эканамічную дзейнасць, грамадска-палітычнае жыццё, маёмасныя правы, саслоўны стан гараджан. Узнікла ў XIII ст. у г. Магдэбургу (Усходняя Германія) і склалася з розных крыніц: звычайнага права, «Саксонскага зярцала», статута г. Магдэбурга. У XIII—XVIII стст. было пашырана на землях Польшчы, Літвы, Беларусі і Украіны. Магдэбургскае права вызваляла гараджан ад феадальных павіннасцей, ад улады ваяводаў, старостаў. У горадзе, які атрымаў ад вялікага князя ці караля гэта права, ствараўся магістрат — выбарны орган самакіравання.

## № 6

[1] Грамата ад 19 лютага 1553 г. перадрукоўваецца з некаторымі папраўкамі з выдання: Russisch-livländische Urkunden. Gesammelt von K. E. Napiersky. Herausgegeben von der archäographischen Commission. St. Petersburg, 1868. S. 380—381.

[2] *Жыгімонт (Зыгмунт, Сігізмунд) Аўгуст* (1520—1572 гг.)—вялікі князь Вялікага княства Літоўскага (1544—1572 гг.) і кароль Польшчы (1548—1572 гг.), сын Жыгімонта I, апошні кароль з дынастыі Ягелонаў. Праводзіў талерантную палітыку, але ў канцы жыцця падтрымаў вярхі каталіцтва на допуск езуітаў у краіну, што стала пачаткам феадальна-каталіцкай рэакцыі. Пры ім уведзены Статут Вялікага княства Літоўскага 1566 г., заключана Люблінская унія (1569 г.). Вёў Лівонскую вайну ў 1558—1583 гг. з Рускай дзяржавай за Прыбалтыку.

[3] *Няўгіння* — паводле К. Е. Наперскага,— гэта Дзюнабург; называўся Дзвінскам, цяпер Даўгаўпілс (Латвія).

[4] *Еска (Еська) Скарына* — тая ж асоба, якая згадваецца ў Полацкай рэвізіі ад 9 сакавіка 1552 г.

[5] Лацінскі выраз «in dorso» азначае «на адвароце».

## № 7

[1] Копія рэкамендацыі 1558 г. зроблена пад муляж у XIX ст. для гісторыка В. А. Більбасава, які, відаць, зацікавіўся асобай Ф. Скарыны і яго родам. Дакумент з кустодыяй і пячаткай, напісаны трыма рознымі почыркамі і чарнілам. Захоўваецца ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Е. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе, аддзел рукапісаў, ф. 73. Більбасаў В. А., Краеўскі А. А., № 66. Пра гэты дакумент нам паведаміў Я. Л. Неміроўскі.

Копія XIX ст. не выклікае ў нас сумненняў у праўдзівасці дакумента XVI ст., за выключэннем адной супярэчлівай дэталі. Кардынал Іасаф у лісце ад 25 красавіка 1558 г. рэкамендуе Іаана Хрызастома Скарыну як здольнага свяшчэнніка, выпускніка гарадскога калегіума ў Рыме, архіепіскапу полацкаму для працы ў яго епархіі.

З гістарычных крыніц вядома, што ў Полацку не было каталіцкага архіепіскапства ў XVI ст., а існавала толькі праваслаўнае. Праваслаўным полацкім архіепіскапам у 1558 г. быў Герасім (свецкае імя Глеб Іванавіч Корсак; ён узведзены ў архіепіскапы граматаю караля Жыгімонта Аўгуста ад 28 сакавіка 1558 г.). Герасім, паводле гістарычных крыніц, дрэнна клапаціўся пра захаванне царкоўнай маёмасці. Нават калі ён і быў па-уніяцку настроены, то і ў такім разе кардынал не мог рэкамендаваць католіка для працаўладкавання ў праваслаўным архіепіскапстве. А размова ідзе іменна

пра каталіцкага святара, паколькі грэчаскі калегіум, які рыхтаваў у Рыме уніяцкіх святароў, быў заснаваны пазней, у 1577 г. Значыць, паміж зместам кустодыі «Святлейшаму і шаноўнейшаму пану архіепіскапу» і адрасатам ліста «Пану архіепіскапу полацкаму [Полацк]» існуе супярэчнасць. Яе мог унесці перапісчык XIX ст., які, відаць, словы «пану архіепіскапу полацкаму» дадаў як бы для растлумачэння, удакладнення кустодыі. Магчыма, у лісце, напісаным у XVI ст., размова ішла пра гнёзненскага архіепіскапа (Мікалая Дзяжгоўскага) і працаўладкаванне Іаана Хрызастома ў Полацку. Бернардынская місія ў Полацку была заснавана ў канцы XV ст. (1498 г.) і знаходзілася ў падпарадкаванні Віленскага каталіцкага епіскапства (засн. у 1387 г.), якое было пад юрысдыкцыяй Гнёзненскага каталіцкага архіепіскапства (Польшча).

Так ці інакш тут застаецца шмат няяснага. Не высветлены пакуль адносіны Іаана Хрызастома да асобы Ф. Скарыны, іх магчымыя сваяцкія сувязі.

Улічваючы тое, што Францыск Скарына быў католікам, а католік Іаан Хрызастом, магчыма, паходзіў з полацкага роду Скарынаў, лагічна дапусціць, што ў гэтым родзе было шмат католікаў.

[2] *Дыяцэзія* — епархіяльная акруга, падначальная архіепіскапу (арцыбіскупу) або епіскапу (біскупу).

[3] *Кангрэгацыя* (ад лац. congregatio — абшчына, аб'яднанне) — саюз абшчын аднаго ордэна ў рымска-каталіцкай царкве (місіянерскі, езуіцкі і інш.). *Кангрэгацыі* — гэта таксама кардынальскія камітэты рымскай курыі, якім даручаны асобныя сферы царкоўнага кіравання.

[4] *Кардынал* — у каталіцкай царкве вышэйшы пасля папы духоўны сан ці носьбіт гэтага звання.

[5] *Архіепіскап* — старшы сярод епіскапаў.

[6] *Стэфан Борджыя* — нявысветленая асоба, магчыма, з іспанскага роду Борджыяў, якія праславіліся сваёй дзейнасцю ў Італіі.

## У КРАКАЎСКІМ УНІВЕРСІТЭЦЕ

### № 1

[1] Актавы запіс 1504 г. друкаваўся ў кн.: Album studiosorum Universitatis Cracoviensis. Tomus II (ab anno 1490 ad annum 1551). Editionem curavit Adam Chmiel. Cracoviae, 1892. P. 91. Захоўваецца ў Кракаўскай універсітэцкай бібліятэцы: рукапіс № 258, Metrica, t. 1, f. 500a.

[2] *Аміцын Ян (Іаан)* — епіскап лаадзіцэнскі, суфраган, прафесар і рэктар Кракаўскага універсітэта. Выхадзец з мяшчанскай сям'і ў Кракаве. Доктар свабодных навук і кананічнага права ў 1490—1502 гг. У 1502 г. стаў плябанам касцёла св. Мікалая, у 1504 г.— епіскапам. Выбіраўся рэктарам Кракаўскага універсітэта ў 1504, 1505, 1516, 1517, 1526 гг. Памёр 16.10. 1526 г. (Polski słownik biograficzny. T. 1/1, zeszyt I. S. 87).

[3] *Кракаў* — горад, заснаваны на месцы паселішча племені віслян у VIII—X стст., у 1320—1609 гг.— сталіца Польскай дзяржавы. Кракаўскі універсітэт (заснаван у 1364 г.) пасля рэформы 1400 г., праведзенай Ягайлам, стаў вышэйшай школай не толькі для Польшчы, але і для Вялікага княства Літоўскага. У XV—XVI стст. тут вучылася і працавала нямала беларусаў. Сярод іх быў і магістр Ян Вісліцкі, будучы аўтар вядомай паэмы «Пруская вайна» (Кракаў, 1516 г.). У развіцці літаратурных здольнасцей Скарыны Кракаўскі універсітэт адыграў вялікую ролю. Беларускі гуманіст бываў у гэтым горадзе неаднаразова, у 1532 г. ён прыязджаў сюды з пляменнікам.

[4] *Епіскап (польск. біскуп)* — асоба, якая кіруе духавенствам епархіі, пэўнай царкоўна-адміністрацыйнай акругі.

[5] *Суфраган* — у каталіцкай царкве тое ж, што вікарый у праваслаўнай.

[6] *Плябан* — прыходскі святар.

[7] Зімні семестр у Кракаўскім універсітэце пачынаўся 19 кастрычніка і працягваўся да 4-й нядзелі вялікага посту наступнага года, г. зн. у 1505 г. ён заканчваўся 1 сакавіка па юліянскаму стылю.

[8] Улічваючы год іматрыкуляцыі Скарыны ў Кракаўскі універсітэт (1504 г.), куды прымаліся, як і ў большасці універсітэтаў Еўропы, юнакі не маладзей 14 год, можна меркаваць, што ён нарадзіўся паміж 1485—1490 гг. Пры гэтым трэба ўлічваць, што ва універсітэт можна было запісацца на працягу ўсяго семестра. Матрыкулы фіксуюць такія запісы асоб маладзей 14 год і намнога старэйшых за гэты ўзрост. Скарына павінен быў прайсці этап першапачатковага навучання ў школе (Полацка ці Вільні) і асвоіць латынь: умова паспяховага навучання ў еўрапейскіх універсітэтах таго часу. У актах Падуанскага універсітэта за 1512 г. Скарына называецца «маладым чалавекам», значыць, яму было тады не больш 30 гадоў.

[9] Скарына ўнёс ва універсітэцкую касу сярэднюю суму грошай. Як паказвае спіс шкаляраў таго ж факультэта, Венцаслаў, сын Венцаслава са Слуцка, заплаціў 4 грошы, Георгій, сын Якуба з Ваўкавыска,— 2 грошы, Мікалай, сын Андрэя з Ашмян, — 7 грошаў. Гэты запіс дае падставу меркаваць, што Скарына жыў у бурсе для бедных.

*Грош* — буйная сярэбраная і залатая манета ў еўрапейскіх краінах. На Беларусі ў XIV—XV стст. асноўнай манетай быў пражскі грош, а ў XVI—XVII стст.— літоўскі і польскі грош. Польскі грош роўны 0,8 сучаснага яму літоўскага гроша.

## № 2

[1] Актавы запіс ад 1506 г. друкаваўся ў кн.: Statuta nec non liber promotionum philosophorum ordinis in Universitate studiorum Jagellonica ab anno 1402 ad annum 1849. Edidit Jozephus Muczkowski. Cracoviae, 1849. P. 144.

Дакумент захоўваецца ў Кракаве, ва універсітэцкай бібліятэцы: Рукапіс BJ 263 «Liber Promotionum philosophorum ordinis ». Л. 62 v.

[2] *Магістр* — трэцяя пасля бакалаўра і ліцэнціята вучоная ступень у сярэдневякоўі і ў эпоху Адраджэння. Імя magister artium liberalium насіў настаўнік т. зв. сямі свабодных навук (граматыка, рыторыка, дыялектыка, арыфметыка, геаметрыя, музыка і астраномія). Гэта ступень прысвойвалася на факультэце свабодных навук універсітэта.

[3] *Леанард з Добшыч* (каля 1470—1508 гг.) — астраном, матэматык, прафесар Кракаўскага універсітэта. Запісаўся ў Кракаўскі універсітэт у 1483 г. на факультэт свабодных навук, дзе вучыўся пад кіраўніцтвам Яна з Глагова і Войцаха з Брудзева, закончыў яго ў 1489 г. са ступенню магістра і пачаў выкладаць як дацэнт-экстранеунс. Выконваў у 1501, 1506 гг. абавязкі дэкана факультэта. У 1504 г. атрымаў ступень бакалаўра кананічнага права. Выкладаў Арыстоцеля і прадметы астранамічна-матэматычныя. Аўтар некалькіх астранамічна-астралагічных прац (Polski słownik biograficzny, t. XVII/1, zeszyt 72. S. 71—72).

[4] Кёльнскі універсітэт заснаван у 1388 г.

[5] 14 снежня 1506 г.

[6] Свята святой Люцыі адзначалася 13 снежня.

[7] 14 снежня.

[8] *Fran*[*ciscus*] *de Poloczko, litphanus* — Францыск Скарына. Тут названы літвінам, г. зн. выхадцам з Вялікага княства Літоўскага. Тое, што Скарына закончыў універсітэт за два гады, сведчыць аб тым, што на радзіме (у Полацку ці Вільні) ён атрымаў добрую гуманітарную падрыхтоўку.

[9] Паводле «Słownika geograficznego Królestwa Polskiego i innych krajów słowianskich» і некаторых іншых геаграфічных крыніц, паселішчы з такіміназвамі сустракаюцца ў розных кутках Еўропы.

[10] *Вікарый* (ад лац. vicarius — намеснік). У позняй Рымскай імперыі кіраўнік адміністрацыйнай акругі — дыяцэза. У каталіцкай царкве ёсць генеральныя вікарыі-памочнікі епіскапаў, якія кіруюць царкоўнымі дыяцэзамі; прыходскія вікарыі — памочнікі прыходскага свяшчэнніка, якія замяняюць у яго адсутнасць; апостальскія вікарыі — папскія намеснікі. У праваслаўнай царкве — памочнік епархіяльнага архірэя.

[11] *Пракуратар* — юрыст-паверапы, які вёў практыку адваката.

## № 3

[1] Дакумент ад 17 сакавіка 1523 г. перадрукоўваецца з кн.: Acta rectoralia almae Universitatis studii Cracoviensis inde ab anno MCCCCLXIX. Editionem curavit dr. Wladislaus Wislocki. T. 1. f. 1. Cracoviae, 1893. P. 605, 622—623. Ён праблематычна можа быць звязаны з жыццём Ф. Скарыны.

## У ПАДУІ

## № 1—3

[1] Актавыя запісы ад 1512 г. выяўлены С. Віндакевічам у 1892 г. (гл.: Materiały do historyi Polaków w Padwie. Archiwum do dziejów literatury i oświaty w Polsce. T. VII. Kraków, 1892. S. 158).

У тым жа годзе дацэнт Пецярбургскага універсітэта І. Шляпкін апублікаваў лацінскія тэксты трох падуанскіх актавых запісаў (гл.: ЖМНП. СПб., 1892. № 4. С. 382—385), дапусціўшы, аднак, рад памылак і недакладнасцей. Фотарэпрадукцыя, лацінскі тэкст і беларускі пераклад гэтых матэрыялаў друкаваліся ў часопісе «Žnič» (1961. № 61. С. 6—7; 1962. № 62—63. С. 10; 1962. № 64—65. С. 12). У 1967 г, у часопісе «Неман» (№ 8. С. 157—159) надрукаван пераклад Я. Парэцкага на рускую мову гэтых актавых запісаў, звераных з прысланай у 1966 г. у АН БССР з Падуанскага універсітэта фотакопіяй дакументаў. Аднак у публікацыі сустракаецца цэлы рад няўважлівых прачытанняў, недакладнасцей, напрыклад, не расчытан і апушчан, як і ў Шляпкіна, спіс прысутных на экзамене 24 італьянскіх вучоных. У 1970 г. у часопісе «Запісы» (1970. Кн. 5. С. 66—75) лацінскія тэксты пададзены на аснове архіўных матэрыялаў, якія захоўваюцца ў Падуі: Archivio antico della Universitá di Padova, Mstt., Vol. 321. Sacri Collegii Dominorum Artistarum et Medicorum, 1512—1523. F. 5, 6r-v. Але і тут сустракаюцца асобныя недакладнасці. У зборніку лацінскія тэксты пададзены намі па фотакопіі гэтых дакументаў, якая захоўваецца ў рукапісным аддзеле Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа АН БССР.

[2] Гэты сказ на палях рукапісу.

[3] *Езус Марыя* — тыповы зварот сярэдневяковага і рэнесанснага пісьменства.

[4] *Русінамі* называлі тады жыхароў Беларусі і Украіны.

[5] *Падуя* — старажытны італьянскі горад. У пачатку XII ст. у Падуі ўсталявалася гарадская камуна, з 1405 па 1797 г. знаходзілася ў складзе Венецыянскай рэспублікі. У XV—XVI стст. Падуя — адзін з буйных культурных цэнтраў Еўропы. Падуанскі універсітэт (засн. у 1222 г.) славіўся на ўсю Еўропу, у ім выкладалі П. Пампанацы, А. Везалій, Г. Галілей. 5 лютага 1592 г. ва універсітэце была створана «Нацыя каралеўства Польскага і Вялікага княства Літоўскага», куды ўваходзіла шмат выхадцаў з Беларусі. У 1533 г. быў закладзены першы ў свеце Батанічны сад. У Падуі ў XIII—XV стст. сфарміраваліся самабытныя школы ў філасофіі (узнікненне звязана з дзейнасцю праф. Падуанскага універсітэта П'етры д'Абано і яго паслядоўнікаў) і ў жывапісу (мастакі Джота, Скварчоне, Мантэнья і інш.).

[6] *Прыёр* у калегіі прыблізна тое, што дэкан факультэта універсітэта:

[7] Гэта важнае сведчанне: Скарына ў 1512 г. быў ужо доктарам мастацтваў (свабодных навук). Дзе ён атрымаў гэту вучоную ступень, пакуль невядома. Доктарам свабодных навук ён стаў раней, чым доктарам медыцыны. Цікава, што сам Скарына называе сябе ўпершыню «в навуках вызволеных и в лекарстве доктором» толькі ў пасляслоўі да «Кнігі Ісуса Навіна» (1518 г.), а дагэтуль ён называў сябе «в лекарских науках» доктарам.

[8] *«personis infrascriptis»* — адсюль можна меркаваць, што ў канцы пратакола павінен быў быць спіс прысутных вучоных, які, відаць, згубіўся.

[9] Дабаўлена намі; у перакладзе Я. І. Парэцкага адсутнічае.

[10] Папраўлена намі; у перакладзе Я. І. Парэцкага «рутену».

[11] Папраўлена намі; у тэксце «Ruthenus», у перакладзе Я. І. Парэцкага «белорус».

[12] Гэты сказ на палях рукапісу.

[13] У тэксце: *promutorib*[*us*] — памылка пісца.

[14] *Прамотары* -- апекуны, якіх калегія прызначала кожнаму дактаранту. Іх задачай было даваць парады, аказваць дапамогу, падрыхтаваць да прамацыйных экзаменаў.

[15] Дабаўлена намі; у перакладзе Я. І. Парэцкага апушчана.

[16] Папраўлена намі; у Я. І. Парэцкага «белорус».

[17] Папраўлена намі; у тэксце «hora XXII$^a$»; у перакладзе Я. І. Парэцкага «в 17 часов», у І. Шляпкіна — «hora XVII».

[18] Папраўлена намі; у перакладзе Я. І. Парэцкага «белорус».

[19] Папраўлена намі; у Я. І. Парэцкага «Амолло».

[20] Сказ дабаўлен намі.

[21] Папраўлена намі; у Я. І. Парэцкага слова «вице-приор» апушчана.

[22] Папраўлена намі; у Я. І. Парэцкага «Амолло».

[23] Папраўлена намі; у Я. І. Парэцкага слова «Иероним» апушчана.

[24] Гэты сказ на палях рукапісу.

[25] Гэты сказ на палях рукапісу.

[26] *Прэсвітар* — духоўны апякун, святар.

[27] *Верона* — старажытны італьянскі горад. З 89 г. да н. э. вядомы як рымская калонія. Кароль остготаў Тэадорых, разграміўшы Адаакра ў 489 г. пад Веронай, зрабіў яе сваёй рэзідэнцыяй. У перыяд праўлення лангабардаў, у 568—774 гг., Верона з'яўлялася цэнтрам аднаго з дукатаў (герцагстваў). З XII ст.— гарадская камуна. У 1387 г. Верона далучана да Мілана, а ў 1405 г.— да Венецыі.

[28] Звычайна былі: круглы берэт (у некаторых еўрапейскіх універсітэтах чатырохраговая шапачка), пярсцёнак, кніга («Афарызмы» Гіпакрата ці Біблія).

[29] Паводле І. Шляпкіна, Барталамей і Францыск дэ Наалі — родныя браты, якія выкладалі філасофію і медыцыну.

[30] Дабаўлена намі; у перакладзе Я. І. Парэцкага апушчана.

[31] Папраўлена намі; у перакладзе Я. І. Парэцкага «белоруса».

[32] Папраўлена намі; у Я. І. Парэцкага «белоруса».

[33] Спіс вучоных дабаўлен намі; у Я. І. Парэцкага ён адсутнічае, заменен словамі «следует 24 подписи».

## № 4

[1] Пратакол падуанскай курыі ад 9 лістапада 1512 г. адшуканы Я. Садоўскім у 1960 г.

Захоўваецца ў архіве г. Падуі: Archivio antico della Curia Vescoville di Padova, Doctoratuum, vol. 49, f. 122.

Друкаваўся ў часопісах «Žnič» (1960. № 56. С. 8; 1962. № 64—65. С. 12), «The Journal of Byelorussian studies» (1969. № 1. P. 25—26), «Запісы» (1970. Кн. 5. С. 75—77). Ён дапаўняе папярэднія факты, уключае прозвішчы пяці прысутных на экзамене Скарыны, якія не згадваюцца ва універсітэцкіх запісах, а таксама цікавы яшчэ і тым, што дае звесткі пра Скарыну як «сакратара караля Дацыі» (хутчэй за ўсё Даніі).

А. В. Флароўскі ўказваў у 1968 г. на існаванне варыянта дакумента з напісаннем «Дасіае», які, паводле яго слоў, выявіў у 1937 г. італьянскі прафесар Этора Ла Гата. Фларўскі пісаў, што «ў 1960 і 1962 гг. вучоным сталі даступнымі новыя, вельмі кароткія запісы аб Скарыну, у якіх ён называецца «secretarius regis Datiae» або «Дасіае», і спасылаўся на публікацыі ў часопісе «Зніч» за 1960 і 1962 гг. (гл.: 450 год беларускага кнігадрукавання. С. 428—429). Мы параўналі напісанне слова «Datiae» па факсімільных здымках дакумента, апублікаванага ў адзначаных вышэй замежных часопісах, і выявілі, што гэта слова нідзе праз «с» не прачытваецца, а толькі праз «t», як «Datiae».

У зборніку лацінскі тэкст падрыхтаван намі па фотакопіі дакумента.

[2] Тыповы зварот сярэдневяковага і рэнесанснага пісьма. *Ісус Хрыстос* (ад грэч. christos) — заснавальнік хрысціянскай рэлігіі. Паводле евангельскіх

сказанняў, нарадзіўся ў Віфлееме ад дзевы Марыі. Сярод вучоных існуюць розныя думкі адносна гістарычнасці асобы Хрыста. Адны (гістарычная школа) сцвярджаюць, што легенда пра Хрыста мае рацыянальнае зерне, другія (міфалагічная школа) лічаць, што вобраз Хрыста з'яўляецца прадуктам міфатворчасці.

[3] *Ім быў Іаан I* (1455—1513 гг.) — кароль Даніі ў 1483—1513 гг., Нарвегіі ў 1483—1513 гг., Швецыі (шведск. *Юхан II*) у 1481—1513 гг., герцаг Шлезвіг-Гальштэйна ў 1481—1513 гг. Пры абранні на дацкі і нарвежскі прастол быў абмежаваны ў сваіх паўнамоцтвах з-за пратэсту буйных феадалаў. Апекаваў гандаль, змагаўся з Ганзой. Першым з дацкіх каралёў заключыў гандлёвы дагавор з Маскоўскай дзяржавай у 1493 г. Пры якіх абставінах Скарына стаў сакратаром дацкага караля дакладна невядома. Існуе гіпотэза, што ў Данію беларускі гуманіст трапіў у складзе пасольства, якое Жыгімонт I накіраваў у 1509 г. у Капенгаген з мэтай падпісання дагавора аб дружбе. Вопыт канцылярскай работы, набыты Скарынам, вельмі яму прыдаўся на службе ў віленскага епіскапа Яна.

[4] У арыгінале: *Datiae,* г. зн. Дацыі. Даследчыкі атаясамліваюць назву «Дацыя» як з Даніяй, так і з Румыніяй і Малдавіяй. Лацінізаваная назва Даніі ў XV—XVI стст. была «Dacia», «Datia». Так, тагачасная каралеўская пячаць называлася «Sigillum maiestatis Johannis dei gratia Daciae, Sveciae, Norvegiae, Slavorum, Gotorumque regis».

## У ВІТЭНБЕРГУ

[1] Фрагмент узяты з кнігі Барталамея Капітара «Hessychii Glosographi discipulus et ΕΠΙΓΛΩΣΣΙΣΤηΣ russus in ipsa Constantinopoli sec. XII—XIII ... Vindobonae, 1839. XXIV. P. 33—34». «Гістарычнае пытанне» аб сустрэчы Ф. Скарыны з Лютэрам і Меланхтонам у 1525 г., узнятае Капітарам у 1839 г., і сёння, у XX ст., патрабуе дакументальнага пацвярджэння. Але не выключана, што такая сустрэча ў 1525 г. сапраўды адбылася.

[2] Капітар лічыць Скарыну доктарам медыцыны Пражскага універсітэта, але не называе гістарычныя крыніцы. Хутчэй за ўсё гэта дапушчэнне даследчыка.

[3] *Лютэр Марцін* (1483—1546 гг.) — рэфарматар, заснавальнік нямецкага пратэстантызму (лютэранства). Скарына, відаць, сустракаўся з Лютэрам з мэтай высвятлення ідэйнай праграмы нямецкага рэфарматара, пошукаў агульных пунктаў судакранання з яго вучэннем. У 1530 г. Скарына едзе да лютэраніна герцага Альбрэхта ў Прусію, дзе быў у яго на службе, але доўга не затрымаўся.

[4] Тут Скарына называецца палякам. У Заходняй Еўропе ў XVI ст. палякамі называлі выхадцаў не толькі з Польшчы, але і з Вялікага княства Літоўскага, якія ў пэўным сэнсе складалі адзіную, звязаную з XIV ст. неаднаразовымі уніямі дзяржаву, якая на Захадзе часцей называлася Польшчай.

[5] *Вітэнберг* — цяпер горад у ГДР у акрузе Галле на Эльбе. У XVI ст.— цэнтр нямецкай рэфармацыі. Тут у 1517 г. Лютэр выступіў са сваімі славутымі тэзісамі. У горадзе знаходзіцца касцёл з грабніцай Лютэра і яго музей.

[6] *Меланхтон* (1497—1560 гг.) — нямецкі гуманіст, выдатны дзеяч лютэраўскай рэфармацыі. З 1518 г.— прафесар грэчаскай мовы ў Вітэнбергскім універсітэце, дзе здружыўся з Лютэрам і стаў яго бліжэйшым сябрам. Праціўнік Сялянскай вайны 1524—1526 гг., тэарэтык, а пасля смерці Лютэра і правадыр лютэранства. За вялікую культурна-асветніцкую дзейнасць нямецкі народ празваў Меланхтона «настаўнікам Германіі».

[7] *Таргау* — цяпер горад у ГДР у акрузе Лейпцыг на Эльбе.

[8] *Вульгата* — лацінскі пераклад Біблії, завершаны каля 405 г. адным з «айцоў» царквы Еранімам. Скарына перакладаў не толькі з Вульгаты, але выкарыстаў іншыя гістарычныя крыніцы: царкоўнаславянскія, чэшскія, старажытнаяўрэйскія, грэчаскія, польскія тэксты.

[9] Відаць, маецца на ўвазе Фейт Людвіг фон Секендорф (1626—1692 гг.), аўтар працы «Commentarius historicus et apologeticus de Lutheranismo seu de

reformatione religionis» (Лейпцыг, 1688, 1692), напісанай па даручэнню герцага Эрнста гоцкага з мэтай абвяржэння «Histoire du Luthéranisme» французскага езуіта Мэнбура. Секендорф напісаў таксама кнігі «Teutscher Fürstenstaat» (1655), «Der Christenstaat» (1685) і інш.

## У ВІЛЬНІ

### № 1

[1] Копія фундуша 1526 г. выяўлена ў 1974 г. Г. Я. Галенчанкам (гл. яго артыкулы: «Новое о Франциске Скорине и его окружении», «Новое о Франциске Скорине», змешчаныя ў зб.: Книговедение и его задачи в свете актуальных проблем советского книжного дела. М., 1974. С. 24—27; Проблемы рукописной и печатной книги. М., 1976. С. 141—142). Захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве старажытных актаў у Маскве (ф. 389, кн. 12. Л. 607 адв.— 612).

Гэты дакумент уяўляе сабою тэкст граматы князя Юрыя Слуцкага, фундатара новага касцёла, падмацаваны і зацверджаны адпаведна граматамі віленскага епіскапа Яна ад 20 сакавіка 1526 г. і караля Жыгімонта ад 18 верасня 1526 г. У зборніку змяшчаецца ўводная і заключная часткі пацвярджальнай граматы епіскапа Яна, дадзенай у Вільні. Адным са сведкаў гэтага акта зацвярджэння і быў Францыск Скарына.

[2] *Вясейі (Вяйсеі, Весічы, Вешыцы)* — мястэчка ў Гродзенскім павеце, уладанне слуцкага князя Георгія (Юрыя). Цяпер г. Вейсеяй у Літве.

[3] *Алелькавіч Георгій (Юрый) Сямёнавіч* (1492—1542 гг.) — князь слуцкі. Удзельнічаў у абароне зямель Вялікага княства Літоўскага ад набегаў крымскіх татар, выступаў, як і большасць князёў Алелькавічаў, за аб'яднанне княства з Маскоўскай дзяржавай. Вызначаўся талерантнасцю поглядаў. Скарына быў знаёмы з гэтым слуцкім князем, які мог быць адным з апекуноў яго кнігадрукарскай дзейнасці.

[4] *Ян (Іаан) «з князёў літоўскіх»* (каля 1498—1538 гг.) — каталіцкі епіскап віленскі, мецэнат. Пазашлюбны сын Жыгімонта І і Кацярыны Тэльнічанкі, выдадзенай потым замуж за Андрэя Касцялецкага, падскарбія каралеўскага. Вучыўся ў Балонні. У 19 гадоў стаў канонікам плоцкім, затым і пазнанскім. З 1519 г., пасля смерці епіскапа Война Радзівіла, кіраваў Віленскай епархіяй. Будучы (да 19 мая 1536 г.) епіскапам віленскім, правёў рад мерапрыемстваў, накіраваных на паляпшэнне яе дзейнасці. У прыватнасці, ён рэкамендаваў царкоўным дзеячам закладваць парафіяльныя школы, нанімаць для работы ў іх мясцовых бакалаўраў. Ім праведзена вялікая работа па арганізацыі адбудавання Віленскага кафедральнага сабора. Быў у сяброўскіх адносінах з П. Таміцкім. Апякаў мясцовых студэнтаў, якія вучыліся ва універсітэтах Заходняй Еўропы. У яго Францыск Скарына служыў лекарам і сакратаром. Спрыяў вызваленню Скарыны з пазнанскай турмы ў 1532 г. Непрыязныя адносіны да Яна некаторых Радзівілаў, Гаштольдаў і каралевы Боны вымусілі яго пакінуць Вільню і выехаць у Познань, дзе ён стаў епіскапам. Урачысты прыезд Яна ў Познань адбыўся 24 сакавіка 1537 г., дзе ў хуткім часе і памёр (пахаваны 31 сакавіка 1538 г.).

[5] *Міля* (лац.) — мера адлегласці, розная ў еўрапейскіх краінах. У Вялікім княстве Літоўскім міля складалася з 5 вёрст. Вёрсты былі вядомы двух відаў — малая даўжынёю 1559,7 м і вялікая вярста — 1948,2 м.

[6] Маецца на ўвазе Жыгімонт І.

[7] *Клемент VII* (1478—1534 гг.) — паходзіў з роду Медзічаў, папа рымскі (з 1523 г.). Апякун навукі і мастацтва.

[8] *Сташкоўскі Якаб* (?—1537 г.) — вучыўся ў Кракаве ў 1488 г., велікакняскі сакратар (1503 г.), канцлер епіскапа (1523—1526 гг.), схаластык віленскі, афіцыял, канонік кракаўскі і сандамірскі.

[9] *Схаластык* — канонік, пад апекай якога былі кафедральныя, прыкасцельныя школы.

[10] *Канцлер* — саноўнік, які ўзначальваў каралеўскую ці царкоўную кан-

цылярыю; распараджаўся маестатавай (дзяржаўнай) пячаццю, вёў нагляд над судаводствам у краі і г. д. Памочнікам яго быў віцэ-канцлер.

[11] *Сільвій Амат Ян* (?—1537 г.) — славуты італьянскі вучоны, гуманіст, педагог. Доктарам грамадзянскага і царкоўнага правоў стаў у Падуі. Выкладаў рымскае права ў Венскім універсітэце. Відаць, у 1499 г. пераехаў у Кракаў і выкладаў у пачатку XVI ст. грэчаскую мову і літаратуру ва універсітэце. Каля 1508 г. выехаў у Вільню і ў гэты ж год у складзе пасольства, узначаленага Я. Сапегам, наведаў Маскву. Канонік віленскі (з 1518 г.), меў прыход у Лідзе і Віцебску, хатні настаўнік (у 1529—1537 гг.) будучага караля і вялікага князя Жыгімонта II. Меў значную бібліятэку, удзельнічаў у складанні вучэбных дапаможнікаў, падтрымліваў сувязі з друкарамі, гуманістамі. Праціўнік рэлігійнага фанатызму, Сільвій развіваў рэнесансныя павевы ў Вялікім княстве Літоўскім. З гэтым гуманістам Скарына падтрымліваў сувязі (Barycz H. Historja Uniwersytetu Jagiellońskiego w epoce humanizmu. Kraków, 1935. S. 69—71).

[12] *Хвалькоўскі Георгій* — канонік (1529 г.), кантар (1534 г.), епіскап луцкі (1536—1549 гг.), плябан у Гедройцах, Азяросдах, Лынтупе і Віцебску, падскарбій.

[13] *Падскарбій* — казначэй. Былі падскарбіі вялікія каронныя і літоўскія, надворныя. Пад іх апекай знаходзілася дзяржаўная і каралеўская казна, уладанні і г. д.

[14] Маецца на ўвазе Францыск Скарына.

## № 2

[1] Дэкрэт ад 1529 г. друкаваўся ў кн.: Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина: Его переводы, печатные издания и язык. С. 321—322. Уладзіміраў некалькі мадэрнізаваў старабеларускі тэкст гэтага дэкрэта (напрыклад, ужываў канчаткі «его» замест «ого»). Дакумент захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве старажытных актаў у Маскве ў адной з кніг Літоўскай метрыкі сярод матэрыялаў за студзень 1529 г. (гл.: Літоўская метрыка. Ф. 389, № 224. Л. 297 адв.— 298). З яго зместу вынікае, што Скарына ў гэты час быў жанаты на ўдаве віленскага радцы Юрыя Адверніка Маргарыце, якая атрымала ў спадчыну дом «на рынку подле дому Иванова Плешывцова и Василева Воропанева» ў Вільні, які родзічы тройчы патрабавалі праз суды. У першай інстанцыі справу разглядаў войт з бурмістрамі, у другой — епіскап віленскі Ян, у трэцяй — кароль і вялікі князь Жыгімонт I і паны — рада Вялікага княства Літоўскага. Паводле пастановы апошняй інстанцыі ад 1529 г., дом і ўся рухомая і нерухомая маёмасць замацоўваліся за Маргарытай і яе дзецьмі «на вечныя часы», а родзічам было загадана «в том вечное молчане мети». Тады Скарына абараняў інтарэсы сваёй жонкі і выйграў судовы працэс. «Калі ў пачатковай фазе працэсу, 1523—1525 гг., удзельнічаюць прамыя спадчыннікі рухомай і нерухомай маёмасці Соф'і Станіславаўны і яе сына Мацея (Георгій і Багдан Адвернікі і сёстры іх, Дарота і Ганна), дык у канцы працэсу (1529 г.) ні Юрыя, ні Багдана Адверніка, ні Дароты ўжо няма ў жывых. На дом «Малкгореты» Адвернік... прэтэндуюць сын Багдана Адверніка Мікалай і зяць Дароты Марцін Субачовіч (з 1525 г.). Матэрыялы працэсу даюць магчымасць вызначыць прыкладна год смерці Ю. Адверніка (пасля кастрычніка 1525 г.)»,— зазначыў на аснове вывучэння архіўных актавых матэрыялаў Г. Я. Галенчанка (гл.: Новое о Франциске Скорине // Проблемы рукописной и печатной книги. М., 1976. С. 135). Сапраўды, у спісах членаў Віленскага магістрата з 1526 г. імя Ю. Адверніка ўжо не сустракаецца. Мяркуючы па гадах гэтых судовых цяжб і ўлічваючы хрысціянскую традыцыю ўшанавання памяці нябожчыка, можна меркаваць аб часе жаніцьбы Скарыны на Маргарыце (паміж 1526—1529 гг.). Але не выключана, што Скарына быў добра знаёмы з сям'ёй Адверніка значна раней. Відаць, Адвернік, як і багатыя віленскія мяшчане Онкаў, Бабіч і іншыя мецэнаты (Калантаі, Алелькавічы, Астрожскія), быў фундатарам кнігавыдавецкай дзейнасці Скарыны.

[2] *Вырок, вырак* — старабел. прысуд.

[3] Маецца на ўвазе Жыгімонт I.

[4] *Паны-рада* — вышэйшы орган дзяржаўнай улады ў Вялікім княстве Літоўскім, куды ўваходзілі вышэйшыя асобы (маршалак, гетман, канцлер, падскарбій, ваяводы, кашталяны, некаторыя старосты, каталіцкія епіскапы і інш.). З вялікім князем рада ажыццяўляла адміністрацыйна-распарадчую, заканадаўчую і судовую ўладу. Паводле прывілея Аляксандра 1492 г. і прывілея Жыгімонта I 1506 г., важнейшыя дзяржаўныя справы вялікі князь павінен быў вырашаць разам з радай.

[5] *Маргарыта (Малкгарэта, Маркгарэта, Margaretha,* г. н. і с. невядомы) — жонка Скарыны. З пазнанскага акта ад 23 кастрычніка 1529 г. вынікае, што Маргарыта, як і Скарына, укладвала грашовыя сродкі ў камерцыйныя справы Івана Скарыны. У судовым дэкрэце 1529 г. і лістах прускага герцага Альбрэхта ад 1530 г. згадваюцца, але не называюцца пайменна дзеці Маргарыты. Сынам і законным спадчыннікам Скарыны быў Сімяон і, магчыма, Францішак, які ў раннім узросце згарэў у 1541 г. у Празе. Верагодна, што спачатку ў Прагу выехаў каля 1535 г. адзін Скарына, а потым узяў сям'ю. У лісце чэшскага караля Фердынанда I ад 22 мая 1535 г. Фларыяну Грыспеку гаворыцца пра накіраванне для работы ў Празе садоўніка, але ні дзеці, ні жонка Скарыны не прыгадваюцца. Некаторыя даследчыкі мяркуюць, што Маргарыта памерла каля 1535 г.

[6] *Радца віленскі* — член Віленскага магістрата. *Магістрат (рада)* — адміністрацыйны орган гарадскога самакіравання.

[7] Паводле «Словаря древнего актового языка Северо-западного края и царства Польского» (Вильно, 1874) М. Гарбачэўскага, «гайны» азначае «законна пачаты» (пра суд). *Гайны суд* — гарадскі, магдэбургскі суд.

[8] Маецца на ўвазе епіскап Ян.

[9] *Войт* — у XVI ст. асоба, якая ўзначальвала адміністрацыю горада з магдэбургскім правам ці вёскі (войтаўства). Удзельнічаў у разглядзе крымінальных і грамадзянскіх спраў. Пазней сельскі староста.

[10] *Сесь* — г. зн. гэты; слова выкарыстоўваў і Скарына ў сваёй Бібліі.

[11] *Вежкгал (Вежгайла) Мікалай* (?—1533 гг.) — дзяржаўны і царкоўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага, князь, член паноў-рады. Паходзіў з Трокскага ваяводства. З 1510 г. — на службе велікакняжацкай, сакратар Жыгімонта I (1524 г.), пробашч трокскі (1526 г.) і плябан брэсцкі (1511 г.), эйшышскі (1529 г.), епіскап (біскуп) кіеўскі (1525—1531 гг.) і жамойцкі (1531—1533 гг.), пратанатарый апостальскі (1521 г.), вікарый генеральны і афіцыял віленскі (1521 г.). Верагодна, адзін са складальнікаў Статута Вялікага княства Літоўскага (1529 г.). Скарына быў з ім знаёмы (Ochmański J. Biskupstwo Wileńskie w średniowieczu. Poznań, 1972. S. 39).

[12] *Ваявода* — начальнік войска і горада. У Вялікім княстве Літоўскім — сенатар, кіраўнік ваяводства, буйнейшай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі.

[13] *Гетман* — начальнік войска. Галоўнакамандуючым войска Вялікага княства Літоўскага быў гетман найвышэйшы, а яго намеснікам — гетман дворны, ці польны.

[14] *Астрожскі Канстанцін Іванавіч* (каля 1460—1530 гг.), князь, кашталян віленскі, гетман вялікі, намеснік брацлаўскі і вінніцкі, ваявода трокскі. Гетманам вялікім заставаўся да канца жыцця, з 1497 па 1530 г. Вызначыўся ў бітвах з крымскімі татарамі і маскоўскім войскам. У 1514 г. перамог рускія войскі ў бітве пад Оршай. Жонкай Астрожскага была слуцкая князёўна Аляксандра, якая мела ўладанні на Беларусі. Магчыма, быў адным з апекуноў Скарыны на пачатковым этапе яго кнігадрукарскай дзейнасці.

[15] Маецца на ўвазе Радзівіл Юрый Мікалаевіч (1480—1541 гг.).

[16] *Копаць Васільевіч* (?—1531 г.) — «рускі» пісар (1507—1530 гг.) Жыгімонта I.

## У ПРУСІІ

### № 1—4

[1] Копіі чатырох лацінскіх лістоў ад мая 1530 г. прускага герцага Альбрэхта ўпершыню апублікаваны А. Мілавідавым у ИОРЯС Академии наук 1917 г. (Пг., 1918. Т. XXII, кн. 2-я. С. 221—226). Дакументы захоўваліся ў дзяржаўных архівах Кёнігсберга, Гёцінгена. Цяпер яны захоўваюцца ў Тайным дзяржаўным архіве ў Заходнім Берліне пад шыфрам: Gost APK, XX. HAStA Königsberg, Ostpreußische Foliant 48. S. 528—531, 535—537. Беларускі пераклад мілавідаўскіх матэрыялаў друкаваўся ў часопісе «Запісы» (1953. № 2/4). У сваёй публікацыі Мілавідаў дапусціў цэлы рад памылак і няўважлівых прачытанняў рукапісу (замест aulicorum — virorum, замест olim — dum, замест fovere — jure і г.д.), апусціў злучнік «ac» і, такім чынам, атрымалася, што разам са Скарынам Кёнігсберг пакінулі не дзве асобы — лекар і друкар, а адна. К. Ланкаронская ажыццявіла сваю публікацыю архіўных дакументаў 1530 г. у выданні «Elementa ad fontium editiones. Romae. 1981. T. LII. № 399, 401, 406, 408».

У дадзеным зборніку дакументы падрыхтаваны па фотакопіі, атрыманай з архіва.

Лісты герцага Альбрэхта — віленскаму ваяводу Гаштольду (першы і чацвёрты), падарожная грамата на праезд Скарыны з Кёнігсберга ў Вільню (другі), у Віленскі сенат (трэці), напісаныя ў маі 1530 г. (два — 16, адзін — 18, чацвёрты — 26), — важныя для славістычных даследаванняў пра Скарыну. Як сведчыць змест першага ліста да Гаштольда, пісаліся яны ў крытычны для Скарыны перыяд: «неадкладныя абставіны, [што] да яго асабістых спраў і маёмасці, пакінутай у горадзе Вільні разам з жонкай і дзецьмі, вымусілі яго падацца адсюль туды». Прычыны пераезду Скарыны ў Кёнігсберг і раптоўны ад'езд слаба высветлены ў скарыназнаўчых працах. Вельмі часта гэты прыезд звязваецца з матэрыяльнымі стратамі, нанесенымі страшным пажарам у Вільні ў 1530 г., які нібыта знішчыў і друкарню Скарыны. Аднак пажар адбыўся, як вядома з гістарычных крыніц, некалькімі тыднямі пазней, летам 1530 г. Да таго ж друкарня Скарыны не згарэла, таму што драўляныя клішэ і шрыфты, якія ўжываліся пры друкаванні «Малой падарожнай кніжкі» і «Апостала», былі выкарыстаны пазней, у канцы XVI ст., друкарамі Віленскага Святатроіцкага брацтва. Скарыну спатрэбіліся высокія рэкамендацыі Альбрэхта да Гаштольда, якіх ён найперш дамагаўся, у сувязі з судовымі цяжбамі. Годам раней Жыгімонт I і паны-рада вырашылі судовую справу ў карысць Скарыны. Аднак, відаць, родзічы Маргарыты ці крэдыторы Скарыны ў 1530 г. зноў даймалі яго судамі. Альбрэхт, здзіўлены незвычайнымі здольнасцямі Скарыны, залічыў яго ў прыдворнае акружэнне, і Скарына ўжо фармальна знаходзіўся на службе ў яго. Ці мог беларускі гуманіст стаць дваранінам Альбрэхта, не перайшоўшы ў лютэранскую веру?

Тут Скарына, відаць, сустрэўся з першым пратэстанцкім епіскапам Прусіі П. Сператам і падарыў яму Псалтыр з «Малой падарожнай кніжкі». Цяпер гэта кніга з экслібрысам Сперата захоўваецца ў Брытанскім музеі ў Лондане. Цяжка сказаць, ці ехаў Скарына да герцага, каб надоўга застацца ў яго на службе. Але судовыя цяжбы, умовы работы ды сум па радзіме, сям'і перамаглі, і ён хутка вяртаецца назад у Вільню. Ён тайна забраў з сабою герцагскага лекара і друкара, што прама сведчыць аб жаданні Скарыны разгарнуць урачэбную дзейнасць і аднавіць у Вільні друкарскую справу, чым ён пастаянна жыў. Цікава, што першыя лісты герцага перасыпаны пахваламі ў гонар Скарыны як чалавека высокага прыроднага таленту і шырокай эрудыцыі, а ў чацвёртым ён называецца «нейкі». Ясна, што Альбрэхт быў пакрыўджаны тым, што Скарына ігнараваў прапанаваную яму службу пры двары. Ён патрабаваў вярнуць лекара і друкара. Абавязкі Скарыны пры двары герцаг не вызначае. Тут, напэўна, меліся на ўвазе лекарская практыка (з восені 1529 г. у Прусіі распаўсюдзілася хвароба, якая называлася «англійскім потам», ад яе гінула шмат людзей), друкарская справа і, магчыма, віды герцага на гуманіста як на патэнцыяльнага выкладчыка будучага універсітэта ў Кёнігсбергу.

[2] Гэты выраз — на палях рукапісу ў пачатку ліста.
[3] У рукапісу: iuuat.
[4] Літары «M. D.» дабаўлены намі.
[5] *Гаштольд Альбрэхт* (?—1539 г.) — ваявода віленскі і канцлер Вялікага княства Літоўскага з 1522 г. У час руска-літоўскай вайны 1507—1508 гг. удзельнічаў у баях пад Оршай і Смаленскам. Абвясціў на віленскім сейме Жыгімонта Аўгуста наследнікам літоўскага трона. Прыхільнік збліжэння з Аўстрыяй і Прусіяй, Гаштольд знаходзіўся ў апазіцыі да каралевы Боны. Адзін з рэдактараў Статута Вялікага княства Літоўскага (1529 г.).
[6] *Кёнігсберг* (з 1946 г. Калінінград) заснаван крыжакамі ў 1256 г. Быў рэзідэнцыяй вялікіх магістраў Тэўтонскага ордэна і прускіх князёў, служыў доўгі час плацдармам агрэсіі Прусіі супраць Польшы, Літвы, Расіі.
[7] Насупраць гэтага радка на палях рукапісу выраз: L[itte]rae passum, 16 Maii».
[8] Другі выраз «et sine» закрэслен пісцом.
[9] *Альбрэхт (Альберт)* (1490—1568 гг.) — першы прускі пратэстанцкі герцаг, апошні вялікі магістр Тэўтонскага ордэна. У 1511 г. быў узведзены ў вышэйшы сан духоўнага рыцарства. 8 красавіка 1525 г. у Кракаве быў падпісаны мір, згодна з якім Прусія ператваралася ў герцагства, падуладнае Польшчы. У 1544 г. заснаваў універсітэт (Collegium Albertinum), у якім вучыліся і выхадцы з Беларусі.
[10] *«Збавенне свету праз Хрыста»* — асноўны догмат хрысціянскай рэлігіі, згодна з якім Хрыстос сваёй смерцю збавіў людскі род ад вечнага пракляцця за першародны грэх прабацькоў і наступныя грахі чалавецтва.
[11] Выраз на палях рукапісу. Гэты дакумент прыводзіцца ў рукапісу непасрэдна за дакументам № 1.
[12] За гэтым словам ідзе закрэсленае пісцом слова «erga».
[13] Сенат у Вялікім княстве Літоўскім прыраўноўваўся да рады.
[14] *«Ад увасаблення Хрыста»* — асноўны догмат хрысціянскай рэлігіі, адпаведна якому Хрыстос набыў чалавечую цялесную і духоўную прыроду ад маці дзевы Марыі, з'явіўся на свет праз увасабленне «святога духа».
[15] Гэты выраз у пачатку ліста на палях рукапісу.
[16] У рукапісу: affeactos.
[17] Замест закрэсленага пісцом слова «uos».

## ПАЗНАНСКАЯ СПРАВА

# ПАЗНАНСКІЯ АКТЫ

[1] Частку гэтых дакументаў пра Ф. Скарыну і яго брата Івана адкрыла ў 1926 г. М. Вайцяхоўская (гл. рэцэнзію даследчыцы на кнігу Л. Абрамовіча «Cztery wieki drukarstwa w Wilnie 1525—1925. Wilno, 1925», змешчаную ў часопісе «Kwartalnik historyczny. Rocznik XL, seszyt 3. We Lwowie. 1926. S. 473—475», а таксама яе даследаванне «Z dziejów książki w Poznaniu w XVI wieku. Poznań, 1927. S. 66—69»).

У дадзеным зборніку дакументы падрыхтаваны па фотакопіі, атрыманай з Пазнанскага архіва (Archiwum Państwowe w depozycie Archiwum Miasta Poznania, Advoc. 1516—1533, f. 54v, f. 55, 58; Advoc. 1521—1533, f. 93—96; Brul. Consul. 1531—1532, f. 135v—136; Advoc.1512—1533, f. 122; Brul. Consul. 1531—1532, f. 118—118v, f. 121v—123, 123—123v, f. 144—145, f. 161v—162v, f. 163v—164, f. 162v—163v, f. 164—165).

Аб значэнні пазнанскіх актаў сказана намі ва ўступным артыкуле. Тут неабходна падкрэсліць наступнае. У дакуменце ад 17 чэрвеня 1532 г. пад назвай «Доктар Скарына прад'яўляе каралеўскі ўказ аб сваім вызваленні» прама сказана, што ліхвяры дзейнічалі разам з іншымі асобамі. У дакуменце гэтыя ўплывовыя асобы паіменна не названы: гэта было не выгадна членам

пазнанскай рады. Ды вопытны пісар ведаў што пісаць, а што пакінуць па-за радком. Словам, Скарыну не выратаваў ад арышту ні яго доктарскі статус (праўда, у княстве і кароне гэта не давала права на прывілеяванае становішча), ні грамадскі статус (Скарына быў сакратаром і лекарам уплывовага віленскага каталіцкага епіскапа Яна, няшлюбнага сына караля і вялікага князя Жыгімонта I). У тым жа дакуменце адзначана, што Скарына быў абвінавачаны «як злачынца без усякага на тое права, насуперак усякай справядлівасці, без усякага на тое грамадзянскага іску».

Што ж вынікала з пазнанскіх актаў? Іван Скарына, брат Францыска, вёў шырокі гандаль скурамі і пад домам Якаба Корбы ў Познані меў склад. Пасля смерці Івана гарадскія ўлады Познані ў прысутнасці Францыска Скарыны і Іванава сына Рамана як законнага наследніка 23 кастрычніка 1529 г. зрабілі пратакольны вопіс і ацэнку скур. Было знойдзена 47 468 скур рознага памеру і якасці, іх падзялілі паміж крэдыторамі, у якіх Іван пазычаў значныя сумы грошай. Сярод іх значыліся ў пазнанскіх актавых кнігах Клаус Габерлянд (запазычанасць яму Івана складала 500 фларэнаў), Фальковіч (200 фларэнаў), Францыск Скарына (400 фларэнаў), Корбава (30 фларэнаў) і інш. У кастрычніку 1529 г. Скарына выступаў як галоўны апякун сваёй жонкі Маргарыты, якая імкнулася вярнуць грошы, што ўклала ў камерцыйную справу яго брата. Для Маргарыты Францыск атрымаў ад Рамана 23 500 скур, а для сябе — 2500.

5 лютага 1532 г. багатыя варшаўскія купцы Лазар і Майсей, сын і зяць фінансавага магната Майсея старога, атрымалі ў Кракаве мандат з каралеўскай канцылярыі на арышт Францыска Скарыны на той падставе, што нібыта ён быў галоўным, юрыдычным спадчыннікам брата і, не жадаючы выплаціць доўг Івана ў 412 фларэнаў (12 360 грошаў), уцёк з Вільні. Раман Скарына робіць адпаведныя захады, каб вызваліць з пазнанскай турмы Скарыну, і пратэстуе супраць беспадстаўнага арышту свайго дзядзькі і гарантуе аплату даўгоў бацькі. Аднак крэдыторы 2 мая 1532 г. дастаюць у Кракаве з каралеўскай канцылярыі «Другі ўказ супраць доктара Скарыны...», у якім даваўся загад уладам горада Познані не вызваляць Скарыну з турмы. 24 мая 1532 г. Раман не без дапамогі віленскага епіскапа Яна ўсё ж дамогся загаду Жыгімонта I аб вызваленні Францыска Скарыны. Цікава адзначыць, што каралеўскі ўказ дадзены ў Кракаве 24 мая, а дастаўлены ў Познань толькі ў сярэдзіне чэрвеня. На падставе гэтага загаду Скарына быў вызвалены з турмы 17 чэрвеня, дзе прасядзеў за кратамі больш за чатыры месяцы.

## № 1

[1] *Фларэн (фларын, florenus)* — залатая і сярэбраная манета Фларэнцыі і некаторых еўрапейскіх дзяржаў у XII—XIX стст., з XV ст. у германскіх дзяржавах называўся гульдэнам. Вядома каля 100 разнавіднасцей, найбольш пашыраны чэшскія і венгерскія фларэны. У Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім венгерскі фларэн у XV—XVI стст. каштаваў 24 пражскія грошы. Як вынікае з пазнанскіх актаў, фларэн у Польшчы ў 1529 г. каштаваў 30 польскіх грошаў, венгерскі фларэн — 44 грошы.

[2] *Свята святога Аляксея* адзначалася 17 ліпеня.

[3] *Свята святой Марыі Магдалены* адзначалася 22 ліпеня. Пятніца прыпадала тады на 23 ліпеня.

Гэты дакумент служыць ускосным сведчаннем таго, што Іван Скарына памёр у ліпені 1529 г.

## № 2

[1] *Свята Petri ad uincula* адзначалася 1 жніўня. Панядзелак прыпадаў тады на 2 жніўня.

Дакумент датуецца 1529 г.

## № 3

[1] Дакумент сведчыць, што Ф. Скарына, як і яго жонка, прымаў удзел у гандлёвых аперацыях Івана.
Дакумент датуецца 2 жніўня 1529 г.

## № 4

[1] Дакумент датуецца 2 жніўня 1529 г.

## № 5

[1] Дакумент датуецца 1529 г.

## № 6

[1] *Свята святых апосталаў Сімона і Іуды* адзначалася 28 кастрычніка, аўторак тады прыпадаў на 23 кастрычніка.
[2] *Маргарыта* — жонка Ф. Скарыны.
[3] *Познань* — польскі горад на р. Варта, узнік у пачатку IX ст. Да сярэдзіны XI ст. — сталіца Польшчы. Тут было заснавана (каля 966 г.) першае ў Польшчы епіскапства (біскупства). Горад асабліва апекавала дынастыя Ягелонаў. У XV—XVI стст. Познань — адзін з буйнейшых гандлёва-рамесніцкіх і значных культурных цэнтраў Еўропы. У 1519 г. Ян Любранскі заснаваў тут вышэйшую школу, у якой вучыліся і выхадцы з Беларусі. У роскавіце акадэміі Любранскага немалая заслуга была К. Хегендорфіна (1500—1540 гг.), які ў 1529—1535 гг. кіраваў тут гуманітарнай кафедрай. З гэтым педагогам-гуманістам, пісьменнікам, аўтарам камедыі «De duobus adolescentibus...» (Кракаў, 1525), мог быць знаёмы Скарына ў час знаходжання ў Познані.

Скарына ў Познані бываў некалькі разоў. Першы раз — у ліпені-жніўні 1529 г., затым у кастрычніку 1529 г., калі ў прысутнасці яго і Іванава сына Рамана гарадскія ўлады Познані зрабілі пратакольны вопіс і ацэнку маёмасці нябожчыка Івана і падзялілі яе паміж крэдыторамі, у якіх Іван запазычыў значныя сумы грошай. У 1532 г. Ф. Скарына як лекар і сакратар віленскага епіскапа Яна прыязджаў у Познань зноў.
[4] *Юхт* вырабляецца са скур ялавіц і быкоў, бывае белы, чырвоны і чорны.
[5] У тэксце: in uulgari Ruthenico. Маецца на ўвазе старабеларуская мова. Гэты факт можа служыць доказам пашырэння беларускай мовы сярод грамадзян Польшчы. Вядома, што Ягелоны часта гаварылі «па-руску». Жыгімонт I пісаў Радзівілу на беларускай мове. Яна была афіцыяльнай, дзяржаўнай мовай Вялікага княства Літоўскага, распаўсюджана і ў Кракаве, на каралеўскім двары. Пра гэта сведчыць ліст Міколы Ніпшыца прускаму герцагу Альбрэхту ад 5 сакавіка 1539 г. Ніпшыц раіў герцагу не пісаць польскаму каралю па-нямецку, а пісаць па-польску альбо «па-руску» (гл.: Pociecha W. Królowa Bona (1494—1557) // Czasy i ludzie Odrodzenia. T. IV. Poznań, 1958. S. 222—223, 395). Ф. Кміта-Чарнабыльскі пасылаў каралю, магнатам і саноўнікам дзяржавы свае лісты на беларускай мове і іх адказы, магчыма, атрымліваў на той жа мове.

## № 7

[1] Дакумент датуецца 1529 г., відаць, 23 кастрычніка.

## № 8

[1] *Свята святых Крыспіна і Крыспініяна* адзначалася 25 кастрычніка.

## № 9

[1] *Панядзелак* прыпадаў тады на 5 лютага.

[2] *Свята Dominica sexagesime* адзначалася на восьмым тыдні перад вялікаднем.

## № 10

[1] Паводле М. Вайцяхоўскай, гэты актавы запіс датуецца 12 красавіка.

## № 11

[1] *Гданск* — партовы горад у Польшчы. Першае гістарычнае ўпамінанне адносіцца да 997 г. У X—XIII стст. — цэнтр Усходнепаморскага княства. У 1308 г. захоплены Тэўтонскім ордэнам. У 1454 г. у выніку паўстання гараджан быў вызвалены з-пад улады ордэна і далучаны да Польшчы. У XV—XVI стст. Гданск — буйны цэнтр гандлю і культуры.

[2] *Возны* — службовая асоба, якая звычайна назначалася ваяводай для абвяшчэння судовых дэкрэтаў, уручэння позваў ад судовых устаноў ці караля, для правядзення агляду на месцы злачынстваў па справах аб насіллях, стратах і г. д. і данясення суду з запісамі ў адпаведныя судовыя кнігі.

[3] *Свята Dominica cantata* адзначалася на чацвёртым тыдні пасля вялікадня. Пятніца прыпадала тады на 26 красавіка.

## № 12

[1] *Лаўнік* — прысяжны засядацель, член магістрата.

[2] *Панядзелак* прыпадаў тады на 29 красавіка, *свята святых апосталаў Піліпа і Якава* адзначалася 1 мая.

## № 13

[1] *Панядзелак* прыпадаў тады на 29 красавіка.

## № 14

[1] *Свята Pentecoste (пяцідзесятніца, троіца, зялёныя свёнткі)* адзначалася на сёмым тыдні пасля вялікадня. Указ быў прад'яўлены бурмістру ў суботу 18 мая.

[2] *Чацвер* тады прыпадаў на 2 мая.

## № 15

[1] *Свята цела Хрыстова* адзначалася на 60-ы дзень пасля вялікадня ці ў чацвер першага тыдня пасля пяцідзесятніцы. Аўторак прыпадаў тады на 4 чэрвеня.

## № 16

[1] *Пятніца* прыпадала тады на 24 мая.

## № 17

[1] Мяркуючы па зместу, гэта выступленне ў 1532 г. упаўнаважанага Ф. Скарыны Мацея Лонгія і самога Скарыны перад пазнанскай радай. Ад імя Ф. Скарыны Лонгій патрабаваў грашовай кампенсацыі за беспадстаўны

